15 жніўня 2014 | № 30 (399)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Смерць афіцыйнага міфа**

стар. 4







# Нескарачаемыя

## Ад скарачэння чыноўнікаў іх колькасць не змяншаецца



Сяргей ПУЛЬША

Аляксандр Лукашэнка 11 жніўня ў чарговы раз заявіў пра значнае скарачэнне дзяржаўнага апарату. На ягоную думку, колькасць чыноўнікаў можна скараціць удвая.

«У найбліжэйшы час мы яшчэ раз падыдзем да значнага скарачэння дзяржаўных служачых. Не таму, што яны кепскія, а таму, што нам трэба ўздымаць выканальніцкую дысцыпліну. У нас так часта бывае: кіраўнік прыняў рашэнне, а потым дзесяць яго падначаленых чыноўнікаў едуць кантраляваць выкананне і пішуць даведкі начальніку, як выконваецца. Дрэнная практыка. Трэба ўзняць выканальніцкую дысцыпліну на такі ўзровень, каб ніхто не ездзіў, і, калі і кантраляваў, то толькі патэлефанаваў і спытаў: ты гэта зрабіў ці не. Не зрабіў — бывай. Такім чынам мы можам яшчэ ўдвая скараціць дзяржапарат, узняўшы выканальніцкую дысцыпліну і забраўшы ад дзяржаўнага апарату тыя функцыі, якія яму не ўласцівыя і якія проста шкодныя», — адзначыў Лукашэнка.

Паводле Лукашэнкі, за кошт скарачэння дзяржапарату будуць павышаны зарплаты дзяржслужачых. «Трэба статус дзяржаўных служачых узняць неймаверна, каб гэта сапраўды быў дзяржаўны служачы, каб гэта быў чыноўнік, які прымае рашэнні, і ўсе становяцца ў радок, шарэнгу, выконваючы гэтыя рашэнні. Усе астатнія зэканомленыя грошы, плюс яшчэ дабавім — гэта будзе вялікая зарплата ў дзяржслужачых, і мы вырашым гэтую праблему», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Нагадаем, што планаванае скарачэнне — не першае. Толькі ў 2013 годзе дзяржапарат скарачаўся на 25%, колькасць работнікаў дзяржаўных органаў і арганізацый паменшылася на 13,5 тысяч чалавек. Афіцыйна ў дзяржапараце зараз працуе 40,5 тысяч чалавек. І ўсё роўна — армія чыноўнікаў у нас завялікая. Калі ўжо казаць пра «армію», то для параўнання — усё беларускае войска складаецца з 59 500 чалавек, у тым ліку больш за 46 000 вайскоўцаў і каля 13 000 грамадзянскага персаналу. То бок чыноўнікаў у нас і пасля скарачэння — дзве трацiны войска.

Але наконт гэтага «скарачэння ў 25%» маюцца пэўныя сумневы. У сваім пасланні да народа і парламента 22 красавіка Лукашэнка паведаміў, што ў нас «колькасць чыноўнікаў на тысячу занятых — адна з самых нізкіх у Еўропе і СНД. У нас — 35 чалавек».

Між тым, паводле дадзеных Белстата, у 2011 годзе па роду эканамічнай дзейнасці «дзяржаўнае кіраванне» ў краіне працавалі 165 900 чыноўнікаў. У эканоміцы было занята 4 654 500 чалавек. Атрымліваецца 35,64 чыноўніка на тысячу занятых у эканоміцы беларусаў. У 2012 годзе на 4 605 600 занятых у эканоміцы прыходзілася 163 200 чыноўнікаў — 35,43 чыноўніка на тысячу. У 2013-м, пасля так званага скарачэння, «кіраванцаў» засталося 157 700 на 4 569 000 эканамічна актыўных беларусаў, то бок — 34,51 чыноўніка на 1000 грамадзян. Як бачым, 35 чыноўнікаў на 1000 працоўных — лічба стабільная, і «скарачэнне» на 25% ніяк на ёй не адбілася.

Дык што ж такое: скарачаем, нават радыкальна, а чыноўніцтва ніяк не скароціцца?

Для больш эфектыўнага скарачэння дзяржапарату Аляксандру Рыгоравічу трэба было б пачытаць «Законы Паркінсона». Гэты брытанскі пісьменнік заўважыў, што «чыноўнікі ствараюць адзін аднаму працу», а «агульная колькасць занятых у бюракратыі расце на 5–7% у год безадносна да якіх-небудзь зменаў у аб'ёме патрабаванай працы (калі такая была наогул)».

**Кантрольныя органы: 1500 функцый, 300 задач**

І гэта сапраўды так. Напрыклад, з чаго пачалася «аптымізацыя» апарата Савета міністраў? Правільна — з павелічэння колькасці чыноўнікаў. А канкрэтна, са стварэння працоўнай групы па скарачэнні чыноўнікаў.

Да таго ж, у «скарочаных» дзяржслужачых ёсць выдатны рэзерв працаўладкавання — так званыя «ідэалагічныя аддзелы». Нічога, што дзяржаўнай ідэалогіі няма, а аддзелы ёсць — галоўнае, каб беспрацоўя не было.

З «дылемай Паркінсона» Аляксандр Лукашэнка сутыкаецца на падсвядомым узроўні. З аднаго боку, ён кажа, што трэба ўдвая скараціць дзяржапарат. А з іншага, патрабуе, каб скарочаныя чыноўнікі былі задзейнічаны ў эканоміцы, «у тым ліку на кіруючых пасадах».

Для сапраўднага скарачэння дзяржапарату патрэбная ягоная карэнная рэформа. Летась эксперты дыскусійна-аналітычнай супольнасці «Ліберальны клуб» прапанавалі не толькі скараціць колькасць міністэрстваў і ведамстваў утрая, але і пазбавіць іх дублюючых функцый. «Нашы органы выконваюць 1500 функцый, за імі замацавана 300 задач. Напрыклад, кантрольнымі паўнамоцтвамі ў Беларусі валодаюць 38 органаў. Практычна ў кожнай з гэтых арганізацый створаны адмысловы кантрольны аддзел. Узнікае пытанне: навошта нам тады Камітэт дзяржкантролю?» — казаў тады эксперт Мікіта Бяляеў.

Улады прыслухаліся да экспертаў, і памочнік Лукашэнкі Наталля Пяткевіч прапаноўвала «зарэзаць» міністэрствы гандлю і ЖКГ. Але Аляксандр Рыгоравіч адзначыў, што ён «не гатовы ў дадзеным кірунку прымаць рашэнне». Можа быць, кіраўнік дзяржавы «даспеў» да гэтага зараз — бліжэй да восені? Бо інакш ізноў атрымаецца «пшык».



## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЯРОЗА. Плануецца пікет да 25 жніўня



**Пікет прымеркаваны да даты, калі незалежнасць Беларусі была юрыдычна замацавана.**

Бярозаўскія праваабаронцы падалі заяву на пікет, выканаўшы ўсе патрабаванні паводле рашэння райвыканкама. Адначасова з заявай падалі копіі дамоваў з ЖКГ, бальніцай і адказ з міліцыі, што да іх павінен звяртацца сам райвыканкам наконт аховы правапарадку на пікеце.

Пікет запланаваны на 25 жніўня. Мяркуемая колькасць удзельнікаў — 10 чалавек у дазволеным уладамі месцы. Мэта пікету: адзначыць гістарычны момант, калі Дэкларацыя пра суверэнітэт БССР набыла статус канстытуцыйнага закону (гэта адбылося 25 жніўня 1991 года). Акрамя гэтага праваабаронцы хочуць выказаць пратэст супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі і салідарнасць з палітычнымі зняволенымі.

Амаль год бярозаўскі райвыканкам называе розныя прычыны, каб не дазволіць праводзіць праваабаронцам пікеты. І амаль год праваабаронцы змагаюцца ў прававым полі, каб дамагчыся выканання сваіх канстытуцыйных правоў.

**Паводле spring96.org**

### ПІНСК. Помнік беспрытульным жывёлам



**У Пінску маюць намер стварыць помнік беспрытульным жывёлам са скарбонкай для ахвяраванняў на іх патрэбы.**

Ідэя належыць бізнэсоўцу Аляксею Кітаеву і ягоным сябрам. Пакуль атрыманая папярэдняя згода ад гарадской адміністрацыі і вядзецца пошук адпаведнага месца.

Пінскае гарадское добраахвотнае аб'яднанне «Абарона жывёл» вітае ініцыятыву неабыякавых гараджан, але непасрэдна да самога ажыццяўлення ідэі не далучылася.

«Людзі, якія пажадалі заняцца гэтым помнікам, стварылі ініцыятыўную групу. Самі хадзілі і глядзелі месцы, хадзілі ў выканкам на прыём, а пасля ў архітэктуру аднеслі ліст з прапанаванымі варыянтамі месцаў для помніка. Архітар павінен вызначыць месца. Пасля таго, як будзе вызначанае месца, яны будуць рабіць эскіз», — кажа чалец праўлення «Абароны жывёл» Алена Рамановіч.

Як будзе выглядаць помнік, пакуль не вядома, але ўжо вырашана, што гэта будуць выявы ката і сабакі.

Зрабіць бронзавы помнік дорага, таму ініцыятары схіляюцца да таго, каб вырабіць кампазіцыю метадам халоднага кавання.

**Беларускае Радыё Рацыя**

### ГОМЕЛЬ. Мовы на пошце не будзе



**Гомельскі праваабаронца, сябра БХК Віктар Адзіночанка атрымаў адказ на свой зварот у Генеральную пракуратуру наконт рэалізацыі права на карыстанне роднай беларускай мовай у дакументацыі на пошце.**

Генеральная пракуратура ў асобе начальніка аддзела па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзян М.В.Папова адказала заяўніку лаканічна, фактычна прадубляваўшы адказ з Міністэрства сувязі: у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, на пошце ў дакументацыі могуць карыстацца беларускай і (або) рускай мовамі.

Нагадаем, праваабаронца патрабуе ад пошты выкарыстання ў дакументацыі беларускай мовы. У канцы чэрвеня ён афармляў падпіску на беларускамоўную газету «Наша Ніва» ў адным з гомельскіх аддзяленняў пошты. Квітанцыю на падпіску яму прапанавалі на рускай мове. Супрацоўнікі пошты сказалі, што ў кампутарах ёсць толькі руская і англійская мова. «Мне як беларусу гэта крыўдна, мы жывём не ў Расіі і не ў Англіі. Бачу ў гэтым прамую дыскрымінацыю беларускамоўных беларусаў», — патлумачыў Віктар Адзіночанка.

Сітуацыю ён апісаў у звароце да міністра сувязі і інфармацыі, дзе папрасіў у кампутарах паштовых аддзяленняў усталяваць беларускую мову. Міністэрства на прапанову адказала спасылкамі на Канстытуцыю і закон «Аб паштовай сувязі», дзе гаворыцца пра дзве дзяржаўныя мовы. Па сутнасці ж прапановы — ні слова. Тады праваабаронца звярнуўся ў Генеральную пракуратуру, але і там паўтарылі: у дакументацыі можна выкарыстоўваць дзве мовы.

«Па сутнасці скаргі мне не адказалі, ніяк не адрэагавалі на канкрэтную прапанову. Падобныя адказы сведчаць не толькі пра стаўленне чыноўнікаў да беларускай мовы, але і да зваротаў грамадзян. Я атрымаў дзве адпіскі. Але праблема засталася. Бо ў Беларусі ўсё ж такі ёсць людзі, якім крыўдна за сваю мову. І іх не так мала, як здаецца», — пракаментаваў Віктар Адзіночанка.

**Паводле spring96.org**

# Супраць блакавання сайтаў

**Блакаванне сайтаў расійскімі дзяржорганамі на тэрыторыі Беларусі — незаконнае, лічыць Рух «За Свабоду».**

Арганізацыя звярнулася ў РУП «Белтэлекам» і Міністэрства сувязі і інфарматызацыі з заклікам вырашыць гэтую праблему.

«Беларускія карыстальнікі інтэрнэту, у тым ліку і сябры Руху «За Свабоду», адчуваюць заўважныя нязручнасці ад часу ўвядзення «чорнага спісу» сайтаў Роскомнадзору (РФ). Гэтыя праблемы ўзмацніліся ў апошні час, калі ў спіс трапілі шматлікія ўкраінскія сайты (у прыватнасці, 6 жніўня цягам раніцы быў заблакаваны сайт «Цэнзар.нет» (censor.net.ua), некалькі дзён доступ адсутнічаў да «Главное.ua» (glavnoe.ua»)», — адзначаецца ў звароце Руху «За Свабоду».

Беларусы, якія жадалі праглядзець заблакаваныя расіянамі сайты, бачылі старонку з папярэджаннем: «Доступ да сайту абмежаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам Расійскай Федэрацыі». Адзначалася таксама, што «сайт можа ўтрымліваць інфармацыю, распаўсюд якой на тэрыторыі Расіі забаронены».

Рух запатрабаваў патлумачыць РУП «Белтэлекам» і Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, на якой падставе расійскія абмежаванні доступу да сайтаў ужываюцца да беларусаў, а таксама, што беларускія ўлады плануюць рабіць, каб такія выпадкі не паўтараліся, і што рабіць карыстальнікам, калі праблема не знікне.

«Мы лічым падобныя блакіроўкі сайтаў дзяржаўным органам другой краіны, абсалютна не законнымі», — падкрэсліў у Руху «За Свабоду».

Рух «За Свабоду» патрабуе тлумачэнняў ад «Белтэлекама» і Мінсувязі. «Мы таксама звяртаемся да грамадзянаў Беларусі, якія таксама сутыкнуліся з праблемай доступу да сайтаў з прычыны іх блакіроўкі расійскімі дзяржорганамі, з заклікам пісаць звароты і патрабаваць адказаў ад беларускіх уладаў», — дадаў першы намеснік старшыні Руху Юрась Губарэвіч.

**рух.by**

# Вёска патрабуе...

Зінаіда ЦІМОШАК

**Мы звыкліся, што подпісы пад патрабаваннямі да мясцовых уладаў збіраюць актывісты ў розных гарадах Беларусі. Але вяскоўцы таксама патрабуюць нармальных умоў жыцця.**

Жыхары вёсак Грозаўскага сельскага савета (Грозаў, Яўсеевічы, Аксаміты, Канюхі, Балгавічы) накіравалі ў Капыльскі райвыканкам 7 калектыўных зваротаў, у якіх просяць прыняць неадкладныя меры па вырашэнню жыццёва важных пытанняў. Высветлілася, што сяляне неабыякава ставяцца да зарослых пустуючых участкаў, да пашырэння плантацый баршчэўніку Сасноўскага ў наваколлі, пакутуюць ад недахопу транспарту.

145 вяскоўцаў нагадваюць выканкаму, што згодна з заканадаўствам дзяржава павінна рупліва выконваць функцыі землеўласнікаў на землях агульнага карыстання і пустуючых участках. Яскравае сведчанне адсутнасці гаспадара на дзяржаўных землях — здзічэлы знешні выгляд вёсак Аксаміты, Слабодка, Яўсеевічы, «плантацыя» баршчэўніку Сасноўскага каля аграгарадка Грозаў, неразабраныя рэшткі спаленых невядомымі злачынцамі пустуючых дамоў у вёсцы Канюхі.

124 чалавек просяць прыняць тэрміновыя меры па ліквідацыі баршчэўніку Сасноўскага. 96 жыхароў Грозава просяць райвыканкам адчыніць лазню ў аграгарадку Грозаў, каб можна было памыцца хаця б раз на тыдзень. З лёгкасцю сабраныя подпісы за адкрыццё дадатковага аўтобуснага рэйса Капыль-Слуцк па выходных днях. Наведаць слуцкі кірмаш, крамы горада, цэрквы — пра гэта мараць людзі розных узростаў.

Сярод пытанняў, якія закранулі падпісанты, і недастатковая забяспечанасць вадой вуліцы Слуцкай, што знаходзіцца ў вёсцы Грозаў.

Некалькі чалавек з вёскі Канюхі паклапаціліся аб тым, каб на скрыжаванні вуліцы з аўтатрасай з'явіўся «ляжачы паліцэйскі». Людзі кажуць, што гэтае месца вельмі небяспечнае для пешаходаў. Больш за 30 чалавек з вёскі Яўсеевічы звяртаюцца ў райвыканкам з просьбай зрабіць якасны рамонт дарогі, якая вядзе з капыльскай аўтатрасы да іх вёскі. Да калектыўных зваротаў напісаны і суправаджальныя лісты датычна вылучаных праблемаў.

Скласці калектыўныя звароты і накіраваць іх у райвыканкам дапамаглі слуцкія і капыльскія актывісты ініцыятывы «Утульны край» у межах агульнанацыянальнай кампаніі «Зробім лепш».

Апроч збору подпісаў, актывісты маюць намер наведаць мясцовых дэпутатаў парламента, кіраўнікоў рознага рангу з тым, каб прапанаваць ім унесці змены ў заканадаўства і вылучыць фінансавыя сродкі для выканання правілаў утрымання населеных пунктаў.

# З днём народзінаў!

Сяргей ПУЛЬША

**Мікалай Статкевіч 12 жніўня адзначыў свой 58-мы дзень народзінаў у Магілёўскай турме.**

Вядома ж, Мікалай Віктаравіч атрымаў шмат віншавальных тэлеграмаў. Але нябачна яго віншавала ўся Беларусь.

Салігорскія актывісты арт-групы «Партызан» расклеілі на рэкламных тумбах і інфармацыйных шыльдах горада плакаты з віншаваннем Статкевіча. Аналагічную акцыю правялі ў Віцебску сябры аргкамітэту па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), які ўзначальвае Мікалай Статкевіч.

У Магілёве традыцыйна дзень народзінаў палітвязня адзначылі салютам. Яго наладзілі невядомыя актывісты ля папраўчай установы №4, у якой утрымліваецца былы кандыдат у прэзідэнты. Некалькі дзясяткаў залпаў асвятлілі вечаровае неба ў 21.45. Салют быў нядоўгім — крыху больш за паўхвіліны. З першымі яго залпамі да месца, адкуль узляталі ў неба рознакаляровыя петарды, кінуліся некалькі супрацоўнікаў турмы.

Газета «Наша Ніва» пад дзень нараджэння Мікалая Віктаравіча прысвяціла палітвязню спецнумар, які ўжо з'явіўся ў шапіках «Белсаюздруку» і дайшоў да падпісчыкаў. У ім — гутарка з жонкай палітвязня Марынай Адамовіч, рэпартаж з родных мясцінаў палітыка, нарыс пра бацьку Міколы Статкевіча. «Тым, хто ў 2010 годзе прагаласаваў за яго, не сорамна за свой выбар. Пасля Плошчы бясстрашнага палітыка асудзілі на шэсць гадоў зняволення. Але не зламалі ягоны дух. Статкевіча прымушалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, аднак ён не пайшоў на кампраміс з сумленнем», — адзначае газета.

Тыя, хто не мае магчымасці павіншаваць Міколу Віктаравіча асабіста (альбо зрабілі гэта «і так, і так»), віншуюць Статкевіча на ягонай старонцы ў «Фэйсбуку». Гэта Уладзімір Някляеў, Уладзімір Мацкевіч, Аляксандр Фядута, Віктар Шалкевіч, Зміцер Дашкевіч, Таццяна Равяка і яшчэ шмат знаёмых і незнаёмых людзей.

Але, пэўна, галоўным падарункам для Статкевіча стала перамога аб'яднанай каманды сацыял-дэмакратаў на XVIII футбольным турніры «Кубак Свабоды» імя Генадзя Карпенкі 9 жніўня. Прычым, дзве каманды палітвязня гралі ў кашульках «Свабоду Мікалаю Статкевічу», — уласна сацыял-дэмакраты і Партыя БНФ. Пераможцы турніру прысвяцілі гэтую перамогу Мікалаю Віктаравічу і паабяцалі, што свой прыз уручаць яму.

«Новы час» далучаецца да ўсіх вітальных словаў, сказаных Статкевічу ў ягоны дзень народзінаў. Мы з нецярпеннем чакаем Вас на волі, Мікола Віктаравіч! І зычым найперш здароўя, бо ў стойкасці і мужнасці Вашай мы пераканаліся!

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Харчовы Клондайк

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вось нарэшце і на плошчы каля нашай сельскай гаспадаркі перакуліўся грузавік з цукеркамі. Пуцін у адказ на замежныя эканамічныя санкцыі ўвёў эмбарга на прадукты з «краін-санкцыянераў». А Беларусь, скарыстаўшыся шанцам, паабяцала накарміць усю Расію. Галоўнае, каб нам пасля гэтага засталося, што есці.**



Улік краін, імпарт харчоў з якіх у Расію абмежаваны, уваходзяць ЗША, краіны ЕС, Аўстралія, Канада, Японія і Украіна. Цалкам забароненыя пастаўкі мяса буйной рагатай жывёлы, свініны, харчовых субпрадуктаў хатняй птушкі, рыбы, ракападобных, малюскаў і іншых водных беспазваночных, малака і малочнай прадукцыі, гародніны, ядомых карняплодаў і клубняплодаў, садавіны і арэхаў, каўбасаў і аналагічных прадуктаў з мяса, мясных субпрадуктаў ці крыві, гатовых прадуктаў, уключаючы сыры і тварог на аснове раслінных тлушчаў, харчовых прадуктаў (з утрыманнем малака, на аснове раслінных тлушчаў). Забарона не распаўсюджваецца на алкаголь і дзіцячае харчаванне.

Мяса, малако, птушка, садавіна і гародніна, асабліва бульба — гэта ўсё тое, чым мы зараз можам проста заваліць Расію. Але трэба напачатку вызначыцца з прыярытэтамі накірункаў паставак.

Пуцін, уводзячы гэтае эмбарга, відавочна думаў пра кантынентальную Расію. Але што будзе рабіць у гэтай сітуацыі Калінінград? Аляксандр Лукашэнка калісьці на сустрэчы з расійскімі журналістамі распавядаў пра прапанову Пуціну далучыць Калінінград да Беларусі. Зараз, падаецца, самы час Пуціну аддаць нам гэтую «Кемску воласць», якая знаходзіцца ў варожым атачэнні краінаў ЕС. Інакш яна проста адыдзе назад да Германіі.

Што ж тычыцца харчавання, то Беларусь гатовая пастаўляць у Расію прадукты замест усіх краін, у дачыненні да якіх Расія ўвяла санкцыі, сцвярджае першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанід Марыніч. «Мы гатовыя замяніць заходнія краіны па многіх пазіцыях у частцы харчавання», — сказаў Марыніч. Паводле яго словаў, першымі ў гэтым шэрагу стануць сыры, потым павялічацца пастаўкі мяса і цэльнага малака (замест Фінляндыі). Беларускія аграрыі, па словах Марыніча, могуць наладзіць дадатковыя пастаўкі садавіны і гародніны. «Заменім галандскую бульбу, заменім польскія яблыкі — у нас усё ёсць», — відавочна радаваўся Марыніч.

Магчыма, у нас усё ёсць, галоўнае толькі падлічыць, у якіх колькасцях. Бо, паўтаруся, каб самім хапіла. А тое надоечы зайшоў я ў «супермаркет» «Суседзі»: каўбаска для смажання — больш за 100 тысячаў за кілаграм! Хай бы гэта было чыстае мяса, але каўбаса па 10 долараў — наўрад ці дзе ў свеце ёсць такія кошты.

Ёсць і яшчэ варыянты павелічэння нашага «залатога запасу» за кошт «харчовай вайны». Напрыклад, Беларусь абавязалася не рээкспартаваць у Расію забароненую заходнюю ежу. Такое абяцанне даў кіраўнік Мінсельгасхарча Беларусі Леанід Заяц на сустрэчы з кіраўніком Россельгаснагляду Сяргеем Данквертам. Але ў той жа час прадстаўнік Беларусі ў Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Румас паведаміў, што «сінявокая» выгандлевала для сябе права пастаўляць у Расію прадукты харчавання, выробленыя ўнутры рэспублікі з выкарыстаннем імпартнай сыравіны. «Мы ўзялі на сябе абавязацельствы не дапускаць рээкспарту ў Расію тавараў, пастаўкі якіх туды забароненыя. Але гэта не распаўсюджваецца на беларускую прадукцыю, якая выраблена на беларускіх прадпрыемствах з выкарыстаннем імпартнай сыравіны», — растлумачыў Румас.

Што значыць «выраблена», і наколькі вялікая павінна быць «ступень лакалізацыі прадукту»? Напрыклад, нарвежскі ласось (аб чым недальнабачна распавёў у сваёй рэкламе «Санта Брэмар») парэзаны на кавалкі і ўпакаваны на гэтым беларускім прадпрыемстве — ён становіцца беларускім прадуктам ці застаецца нарвежскім ласосем? Ці з'явяцца такім чынам у Беларусі «свае» кальмары, цытрусавыя ды бананы?

Акрамя наўпроставых паставак прадукцыі ёсць яшчэ адзін спосаб «накарміць Расію». Нездарма Аляксандр Лукашэнка адразу пасля ўвядзення гэтага харчовага эмбарга раптам заклапаціўся праблемай перавозчыкаў і пастаўшчыкоў. «Рашэнне (Пуціна пра харчы — рэд.) было ўведзена без папярэджання, нечакана. І на мяжы сабралася пэўная колькасць аўтамашын, рэфрыжэратараў, у тым ліку з хуткапсавальнымі прадуктамі. Не трэба гэтых людзей крыўдзіць», — адзначыў Лукашэнка. «Па-першае, гэта ж нашы і расійскія перавозчыкі — кіроўцы, экспедытары. Па-другое, тавар аплачаны і законтрактаваны. Па-трэцяе, проста не па-чалавечы будзе, калі мы да гэтых людзей ненармальна паставімся», — лічыць Лукашэнка.

Кіраўнік Беларусі прапанаваў пастаўшчыкам альбо прадаць тавар на тэрыторыі Беларусі, альбо аддаць яго на перапрацоўку, каб не ганяць фуры туды-сюды. І, між тым, дадаў: «Што тычыцца нашага ўнутранага рынку, гэта наша ўнутраная справа. Патрэбныя нам польскія яблыкі — мы купляем, але не для Расіі, а для ўнутранага рынку. Патрэбныя нейкія нямецкія далікатэсы — таксама набываем для ўнутранага спажывання».

У варунках Мытнага саюза і фактычнай адсутнасці мяжы з Расіяй гэта гучыць як запрашэнне: «Калі ласка, за харчамі ў Беларусь, дарагія расіяне!». Мы ўжо звыкліся да таго, што расійцы масава наведваюць Віцебск, Магілёў і іншыя «прымежныя» абласныя цэнтры, скупляючы там малако, смятану і іншыя прадукты харчавання. Зараз гэты «паток харчовых турыстаў» значна ўзрасце. Беларускаму вытворцу, сэрвісу, гандлю, і банкам у гарадах на мяжы з Расіяй трэба быць гатовымі задаволіць шалёны попыт, які ўзнікне ў расіян у сувязі з уласным дэфіцытам «нямецкіх далікатэсаў».

Але галоўнае — не спаць у шапку сельгасвытворцам і перапрацоўшчыкам сельскагаспадарчай прадукцыі. Калі «харчовае эмбарга», як плануе Пуцін, пратрывае год, то за гэты год нашая сельская гаспадарка павінна як мінімум размнажыцца з усімі сваімі пазыкамі, калі не выйсці не тое што на самаакупнасць, а «у плюс».

А што ж будзе з ЗША і Еўропай? А нічога. ЗША ацэньваюць страты ад «харчовых» санкцый РФ у дробязныя $715 мільёнаў. Еўропа — у 5,2 мільярда еўра. Для рэгіёна, які на падтрымку адной толькі Грэцыі выкінуў 240 мільярдаў еўра за тры гады, гэта таксама дробязі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Бандарэнка

**Праваабаронца, кіраўнік арганізацыі «Platform Innovation», якая займалася маніторынгам стану месцаў зняволення, сам патрапіў у турму.**



12 жніўня суддзя Кастрычніцкага суда Мінска Ала Абакунчык асудзіла Бандарэнку да 4 гадоў калоніі строгага рэжыму. Праўда, у калоніі ён правядзе тры гады — адзін год яму «скасцілі» па сёлетняй амністыі.

Андрэй Бандарэнка заявіў, што будзе абскарджваць прысуд.

Кіраўнік праваабарончай арганізацыі быў затрыманы 11 красавіка. Працэс над Андрэем Бандарэнкам пачаўся 29 ліпеня. Бандарэнку абвінавацілі ва ўчыненні хуліганскіх дзеянняў, спалучаных з ужываннем фізічнай сілы. Справу расследаваў Кастрычніцкі райаддзел Следчага камітэта па Мінску.

Падчас судовых пасяджэнняў Андрэй Бандарэнка заяўляў, што суд вядзецца неаб'ектыўна, з абвінаваўчым ухілам. Бандарэнка заяўляў, што суддзя адхіліла хадайніцтвы абароны, якія былі накіраваныя на высвятленне верагоднасці паказанняў аднаго са сведкаў і пацярпелага.

Падчас расследавання былі ўстаноўленыя тры эпізоды хуліганскіх дзеянняў, учыненых абвінавачаным. Дзеянні Бандарэнкі кваліфікаваныя следчымі як злачынствы, прадугледжаныя ч. 1, ч. 2 і ч. 3 арт. 339 Крымінальнага кодэкса (хуліганства, злоснае хуліганства і асабліва злоснае хуліганства).

## Міхаіл Мясніковіч



**Прэм'ер даручыў уладам Мінска і Мінскай вобласці на працягу трох месяцаў выпрацаваць меры па комплексным добраўпарадкаванні зон адпачынку.**

«Праца Мінгарвыканкама і Мінаблвыканкама па арганізацыі адпачынку грамадзян і абсталяванню месцаў масавага адпачынку прызнана нездавальняючай. За тры месяцы выканкамы сумесна з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання павінны выпрацаваць і прадставіць на зацвярджэнне ўраду меры па комплексным добраўпарадкаванні зон адпачынку», — заявіў Мясніковіч.

Паводле яго слоў, парадкам у зонах адпачынку павінны займацца і грамадскія арганізацыі. У прыватнасці, БРСМ даручана ўзяць шэфства над Цнянскім вадасховішчам. Улады Мінска ўжо паабяцалі стварыць каля 500 парковачных месцаў каля папулярных месцаў для купання.

Гэта было б добра, калі б не было смешна — даручэнне Мясніковіч выдаў на нарадзе, якая адбылася 9 жніўня. А тры месяцы для «добраўпарадкавання зонаў для купання» скончацца ў лістападзе. Якраз своечасова — там лёд пачне ўставаць.

## Вікторыя Азаранка

**Канешне, не назавеш радаснай навіною тое, што Вікторыя прайграла ў чвэрцьфінале тэніснага турніру ў Манрэалі палячцы Агнешке Радваньскай. Але не тэнісам адзіным…**



Сама Радваньская патлумачыла свой выйгрыш тым, што ў матчы з беларускай ёй спрыяла ўдача. «Я лічу, гэта быў добры матч. Усё ў мяне атрымлівалася з самага пачатку. А з такімі апанентамі, як Віка, заўсёды трэба ўключацца ў гульню менавіта з самага пачатку. Тут не бывае лёгкіх ачкоў, я старалася, як магла. Супернік суперніку розніца, і я не думаю, што з'яўляюся самай магутнай у тэнісе. У кожнай гульні імкнуся падбіраць такую тактыку, каб выйграць і не бегаць па 200 кіламетраў у гадзіну», — заявіла яна.

Тым не менш, нягледзячы на паразу, па выніках турніру ў Манрэалі Азаранка вярнулася ў «Топ-10» рэйтынгу WTA. Яна спынілася на 10-м радку, пацясніўшы Ану Івановіч.

Разам з тым, Азаранка спрабуе свае сілы ў мастацтве. Яна паведаміла на сваім акаўнце ў сацыяльнай сетцы «Твітар», што закончыла маляваць першую ў яе жыцці карціну. «Мне трэба натхненне, каб скончыць гэтую працу, якую я пачала ўжо даволі даўно. Як вам?» — падпісала фота карціны тэнісістка.

а | Азбука паліталогіі

# Смерць афіцыйнага міфа



Сяргей НІКАЛЮК

**Разруха, як вядома, не ў клазетах... З фашыстамі тая ж гісторыя. Яны не ва Украіне, яны ў галовах гледачоў расійскіх тэлеканалаў.**

Украіна — «братская нам страна, с которой у нас большая и славная общая история». Так лічыць галоўны персанаж маіх «азбук паліталогіі». «Украину принято делить, резать пополам — Восточная и Западная. Знаете, еще совсем молодым человеком я служил на границе и исколесил всю Украину Западную по границе — Ужгород, Львов. Вот тогда я впервые почувствовал и увидел, что такое Украина. Это красивые, очень трудолюбивые, порядочные люди».

Да нядаўняга часу аспрэчваць такія характарыстыкі Украіны і ўкраінцаў ніхто б у Беларусі не наважыўся. Але ў чэрвені 51% беларусаў пагадзіўся з тым, што вельмі блізкі нам народ спарадзіў у Кіеве ўладу фашыстаў (тут і далей дадзеныя НІСЭПД).

## Словы-этыкеткі

Радзіма фашызму — Італія. Аднак у нас паняцце «фашызм» грамадская свядомасць цесна звязала з гітлераўскай Германіяй. Я доўга не мог зразумець прычыну такога палітадагічнай казусу, пакуль не паслухаў гутарку па onlinetv.ru з гісторыкам Іллём Жэніным.

Уявіце сітуацыю, у якой апынуліся ідэолагі СССР у гады Другой сусветнай вайны. Іх смяротны вораг таксама будаваў сацыялізм, і гэтую гістарычную працу ён рабіў пад кіраўніцтвам Нямецкай нацыянал-сацыялістычнай партыі.

Гітлер, як і належыць нацыянальнаму лідару (фюрэру), карыстаўся падтрымкай працоўнага класа, самага масавага і самага перадавога (па Марксу) класа першай паловы XX стагоддзя. Свой варыянт партыі «новага тыпу» ён стварыў не з чыстага ліста. Папярэдніцай Нямецкай нацыянал-сацыялістычнай партыі была Нямецкая рабочая партыя слесара Антона Дрэкслера.

Вернемся ў Беларусь. Што пад «фашызмам» разумее тыповы прадстаўнік нашай талерантнай «большасці»? Я не раз спрабаваў атрымаць адказ на гэта пытанне, і кожны раз мае суразмоўцы аказваліся ў становішчы сараканожкі з вядомага анекдота.

Словы «фашыст» і «фашызм» для постсавецкага чалавека азначаюць абсалютнае Зло. Гэта словы-этыкеткі. Каб замацоўваць іх у грамадскай свядомасці, неабходна ўспрымаць кагосьці ці штосьці ў якасці каштоўнасна (анталагічна) чужога.

Падзеі на Еўрамайдане разбурылі афіцыйны міф пра культурнае адзінства трох славянскіх народаў. На ўзроўні падсвядомасці беларусы заўсёды сумняваліся ў тым, што «прыгожыя, вельмі працавітыя, прыстойныя людзі» з Ужгарада і Львова блізкія ім па нацыянальным характары, культуры і традыцыях. У чэрвені 2013 года такую ступень блізкасці з украінцамі адзначылі 5% беларусаў, блізкасць з палякамі — 10% (у два разы больш), блізкасць з рускімі — 47% (у дзевяць разоў больш!).

## Дастаткова адной прыкметы

Каб не апынуцца ў становішчы сараканожкі, прыгледзімся да фашызму. А дапаможа нам чалавек, у чыёй кампетэнтнасці сумнявацца не даводзіцца. Я маю на ўвазе бацьку-заснавальніка фашызму Беніта Мусаліні. Яго вызначэнне фашызму лічыцца класічным: «Усё ў дзяржаве, нічога па-за дзяржавай, нічога супраць дзяржавы».

Як гэта разумець? Напрыклад, існуе грамадская праблема, якую можна вырашыць двума ўзаемавыключальнымі спосабамі: шляхам узмацнення або, наадварот, паслаблення ролі дзяржавы. Калі мы выбіраем першы шлях, то робім невялікі крок у бок фашызму. Адзін крок, безумоўна, неператварае нас у паслядоўнікаў італьянскага дучэ.

Але «нават шлях у тысячу лі, — сцвярджаў Лаа-цзы, — пачынаецца з першага кроку». І калі гэты крок быў зроблены ў кірунку ўзмацнення дзяржавы, то наступныя крокі прывядуць нас у краіну, у якой «Народ паўстае як маналітнае адзінства, якое выказвае сукупную волю», а «Правадыр прэтэндуе на тое, каб прамаўляць ад імя ўсіх».

Гэтыя дзве характарыстыкі Народа і Правадыра я запазычыў у італьянскага філосафа і пісьменніка Умберта Эка. Яго артыкул «Вечны фашызм» кожны ахвочы за пару клікаў можа адшукаць у інтэрнэце.

Прывяду яго ўступны абзац: «У 1942 годзе, ва ўзросце 10 гадоў, я заваяваў першае месца на алімпіядзе Ludi Juveniles, якая праводзілася для італьянскіх школьнікаў-фашыстаў (гэта значыць, для ўсіх італьянскіх школьнікаў). Я спадобіўся з рытарычнай віртуознасцю развіць тэму «Ці павінны мы памерці за славу Мусаліні і за несмяротную славу Італіі?» Я даказаў, што павінны памерці. Я быў разумны хлопчык».

Разумнаму хлопчыку спатрэбілася тры гады, каб зразумець, «ад чаго менавіта нас вызвалілі» ў 1945-м. Вызвалілі, між іншым, амерыканцы. Сваё разуменне фашызму былі пераможца школьнай алімпіяды ўжо ў сталыя гады абагульніў у 14-ці тыповых характарыстыках фашызму, адразу пазначыўшы, што «дастаткова наяўнасці нават адной з іх, каб пачынаў кандэнсавацца фашысцкі туман», наяўнасць жа 6–7 прыкмет здольная выклікаць эфект «снежнага камяку».

Прапаную дапытлівым чытачам самастойна накласці 14 прыкмет фашызму Умберта Эка на працэсы, якія адбываюцца ўнутры славянскага трыкутніка (Беларусь — Расія — Украіна). Цікава, якая з яго вяршыняў апынецца ў лідарах па колькасці тыповых характарыстык?




| Ці ёсць ворагі ў нашага народа, у нашай краіны? (у працэнтах ад колькасці апытаных) | | |
|---|---|---|
| Варыянт адказу | 03'11 | 06'14 |
| Наша краіна акружаная ворагамі з усіх бакоў | 8 | 13 |
| Самыя небяспечныя нашы ворагі — прыхаваныя, унутраныя | 23 | 29 |
| У нашага народа, які стаў на шлях адраджэння, заўсёды знойдуцца ворагі | 22 | 21 |
| Навошта шукаць ворагаў, калі корань зла — ва ўласных памылках | 35 | 29 |
| Няма адказу / цяжка адказаць | 12 | 8 |

## Самыя небяспечныя ворагі — унутраныя

Калі ў галавы сям'і на працы здараюцца непрыемнасці, ён адыгрываецца на жонцы і дзецях. Псіхолагі ў такіх выпадках кажуць пра зрушаную агрэсію. Акт зрушанай агрэсіі можа быць ажыццёўлены ў дачыненні да чалавека або прадмета, што трапіліся пад руку, але аб'ект агрэсіі можа быць абраны і адмыслова. Важна, каб з яго боку не было дзеяння ў адказ.

Беларусы, якія ўспрымаюць украінскую ўладу ў Кіеве як фашысцкую, нагадваюць мне галаву сям'і з прыведзенай вышэй бытавой гісторыі. А калі гэта так, то варта разабрацца, якія непрыемнасці справакавалі ў «рускіх са знакам якасці» агрэсію, і чаму яны перанеслі яе на сваіх паўднёвых суседзяў.

Аснову беларускага грамадства па-ранейшаму складае «чалавек савецкі». Галоўнай характарыстыкай гэтага сацыяльнага тыпу выступаюць архаічныя, прымітызаваныя ў сваёй аснове міфалагізаваныя ўяўленні. Менавіта на іх аснове выстройваюцца механізмы кансалідацыі грамадства праз вобраз ворага, праз рост негатыву да ўсіх, хто не выказвае сімпатый да кіраўніцтва дзяржавы, да ўсіх, чужых, вельмі разумных і проста іншых.

Безумоўна, паводле ўзроўню ксенафобіі беларусам далёка да расіян. Калі ў 1989 годзе, калі УЦДГМ (ВЦИОМ) распачаў першыя агульнанацыянальныя апытанні, наяўнасць ворагаў адзначалі 13% расіян, а сёння — 78%. Адпадаюць толькі тыя, хто не глядзіць тэлевізар, ледзь пісьменны, і наогул адарваны ад усяго.

Узровень і структура айчыннай ксенафобіі прадстаўлены ў табліцы. Самыя небяспечныя ворагі для беларусаў не знешнія, а ўнутраныя (13% vs. 29%). Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. На статус «вялікай дзяржавы» беларусы не прэтэндуюць, а вось пра наяўнасць у краіне «пятай калоны» ім пастаянна нагадвае адзіны палітык.

За апошнія тры гады ўзровень ксенафобіі прыкметна вырас. Гэта прамое следства бурных падзей на Украіне, якія большасць беларусаў успрымае ў інтэрпрэтацыі расійскіх тэлеканалаў. У чэрвені 65% рэспандэнтаў заявілі, што атрымліваюць інфармацыю пра падзеі ва Украіне з расійскіх тэлеканалаў. Беларускія інтэрнэт-сайты як крыніца аналагічнай інфармацыі канкурэнцыю «скрыні» не склалі. Іх адзначылі толькі 15%. І гэта нягледзячы на тое, што колькасць актыўных карыстальнікаў інтэрнэтам у Беларусі ўшчыльную наблізілася да 60%.

## Цягнік сышоў

Беларуская мадэль, у якой аўтарытарная ўлада выступае не ў якасці рэгулюючага органа, а як гаспадар краіны, служыць «чалавеку савецкаму» своеасаблівым пажыўным булёнам. За гэты булён ён і галасаваў летам 1994 года, калі быў выкінуты на бераг рынку і дэмакратыі пасля развалу СССР.

Для «чалавека савецкага» зусім невыносным і самым страшным з'яўляецца выпрабаванне нявызначанасцю. Нявызначанасць спараджае адчуванне хаосу. Яна не проста прыгнятае, яна штурхае да істэрыкі. Пазбаўлены ўнутраных апірышчаў, такі сацыяльны тып чалавека імкнецца далучыцца да «полюсу парадку». Моцная патэрналісцкая дзяржава на чале з нацыянальным лідарам (правадыром, фюрэрам, дучэ і далей па спісе) аказваецца тут па-за канкурэнцыяй.

Таму Еўрамайдан наш персанаж успрыняў як смяротную пагрозу для далейшага існавання «пажыўнага булёну». Паверыць, што гэтая пагроза зыходзіць ад «красивых, очень трудолюбивых, порядочных людей» было не так лёгка. Таму ў студзені падзеі ва Украіне 37% беларусаў ацанілі як «суб'ектыўны працэс, выкліканы прымяненнем палітычных тэхналогій з боку Захаду і слабасцю ўлады».

Варта адзначыць, што роўна столькі ж прыхільнікаў апынулася ў супрацьлеглай ацэнкі: «Гэта аб'ектыўны працэс, выкліканы незадаволенасцю народа палітыкай уладай». Але такая роўнасць была зафіксавана ў студзені, г.зн. да вострай фазы палітычнага супрацьстаяння, якая завяршылася расстрэлам дэманстрантаў снайперамі і ўцёкамі прэзідэнта Януковіча.

***

На Усходзе Украіне, на ўсёй тэрыторыі Беларусі і Расіі «чалавек савецкі» працягвае колькасна дамінаваць. Але яго цягнік сышоў. Скочыць у апошні вагон ён не паспеў, дый не здолеў бы, нават калі б вельмі пастараўся.

Тое, што мы сёння назіраем, ёсць не што іншае, як агонія. Агонія сацыяцэнтрычнай культуры, якая адпрэчвае чалавечую асобу як найвышэйшую каштоўнасць.

# Міхаіл Марыніч: «Я зразумеў — Беларусь вядуць у тупік»

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**У лютым 2012 года ў НЧ быў надрукаваны нарыс «Няскораны Міхаіл Марыніч». Зараз да друку рыхтуецца кніга з аднайменнай назвай. Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з Міхаілам Марынічам, зробленае спецыяльна з гэтай нагоды.**

***— Калі не супраць, пачнём з таго часу, калі вас першы раз прызначылі амбасадарам...***

— Калі ласка. У студзені 1991 года з мэра Мінска я перайшоў на работу ў Дзяржаўны камітэт па знешніх эканамічных сувязях Беларусі, які тады месціўся насупраць Нацыянальнага банка краіны. Стаў першым намеснікам старшыні камітэта Нічыпаровіча. Уладзімір Валер'янавіч быў верным паплечнікам тагачаснага прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, а я знаходзіўся сярод патэнцыйных апанентаў кіраўніка ўраду.

Думаю, што з кіраўніка сталіцы мяне па гэтай прычыне і прыбралі ў камітэт. Каб быў, так бы мовіць, пад наглядам. Не здзіўлюся, калі па гэтай жа прычыне ў траўні 1994 года (за месяц да прэзідэнцкіх выбараў) мяне прызначылі амбасадарам у Чэхію і, па сумяшчальніцтву, у Славакію з Венгрыяй.

Дарэчы, да Венгрыі я даехаць не паспеў — атрымаў новае прызначэнне.

***— У той час казалі, што такім чынам Лукашэнка аддзячыў за адмову ўзначаліць антыкарупцыйную камісію, а яшчэ казалі, што міністэрства знешніх эканамічных сувязяў стваралася ледзь не пад Марыніча?***

— Апошняя тэза крыху спрэчная, бо Кебіч прызначыў Нічыпаровіча міністрам яшчэ 16 чэрвеня 1994 года, бо ток за тыдзень да першага тура прэзідэнцкіх выбараў.

Што тычыцца антыкарупцыйнай камісіі, то адмова мая была зусім не з жадання паспрыяць кар'ернаму росту былога дырэктара саўгаса. Сама пасада па азначэнні была не па мне. Я прывык займацца канкрэтнай справай, а не збіраць сумнеўнага зместу кампрамат на іншых.

Першы раз пра тое, што прэзідэнт «будзе тэлефанаваць», я даведаўся ад яго тагачаснага памочніка Віктара Кучынскага, які прыехаў на святкаванне 50-годдзя славацкага антыфашысцкага паўстання. Дарэчы, узначальваў тады беларускую дэлегацыю мой будучы непасрэдны начальнік Міхаіл Чыгір.

Неўзабаве Лукашэнка сапраўды патэлефанаваў і загадаў тэрмінова прыехаць у Мінск. Падчас сустрэчы ён прапанаваў узначаліць новае міністэрства. Дадаўшы пры гэтым, што дзверы яго кабінета я магу ў будучым «адчыняць нагой».

Раней мне даводзілася кантактаваць са многімі кіраўнікамі Беларусі. У тым ліку і з Пятром Машэравым. Ніхто з іх падобнай фамільярнасці сабе не дазваляў.

Кожнаму тады здавалася, што для працы наступілі надзвычай цудоўныя часы. Маладая незалежная краіна з чыстага аркуша ўсталёўвала адносіны з еўрапейскімі краінамі, пачынала цікавыя і перспектыўныя бізнэс-праекты. Гэта быў перыяд плённых кантактаў з замежнымі інвестарамі. Частка з іх развілася. Напрыклад, сумесны праект з Германіяй па крэдытнай лініі «Гермес» (рэканструкцыі нафтаперапрацоўчых заводаў), што дазволіў вырабляць бензін больш высокага гатунку, альбо адкрыццё завода «Кока-Колы», скуранога завода ў Гатава з італьянскімі інвестыцыямі і інш.

Але, на жаль, яшчэ больш праектаў было пахавана. Буйныя французскія кампаніі жадалі інвеставаць у льняную галіну і нафтаперапрацоўку. Памятаю, візіт у Францыю быў адным з самых паспяховых. Беларускім пытаннем зацікавіўся нават асабіста французскі прэзідэнт Жак Шырак.

Таксама не была рэалізавана ідэя карэйскіх бізнэсмэнаў па будаўніцтву завода аўтамабіляў «ДЭУ» (праект асабіста заваліў тагачасны міністр прамысловасці Харлап) і чэшскіх уласнікаў па будаўніцтву аўтазавода «Шкода». Акрамя гэтага, была прыпынена дзейнасць філіі аўтамабільнага завода «Форд». Падобных фактаў можна ўзгадаць яшчэ шмат.

Аднак адзін з іх патрабуе асаблівай увагі. Гутарка пра шлях Беларусі да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. У тыя гады мы былі надзвычай блізкія да гэтага. Некалькі паспяховых сустрэч у Жэневе і канферэнцыя ў Сінгапуры — вельмі яскравае таму пацверджанне. Журналісты нават пачалі пісаць пра блізкую перамогу. Рэферэндум 1996 года перакрэсліў усё, чаго ўдалося дасягнуць.

Я спрабаваў упэўніваць урад і Лукашэнку, што такія праекты патрэбныя Беларусі, але беспаспяхова. Ён гэтага не хацеў. Ужо тады зараджалася дыктатура, і ўпэўніваць у перавагах прыватнай уласнасці і прыходу замежнага капіталу Лукашэнку было ўсё цяжэй.

Калі да рэферэндуму 1996 года мы больш кантактавалі з еўрапейцамі, то потым — з арабамі. Дэмакратычны свет у сэнсе інвестыцый для беларусаў фактычна закрыўся.

***— Наколькі я памятаю, адстаўку Чыгіра ў знак пратэсту тады падтрымаў толькі адзін міністр працы Аляксандр Сасноў...***




— Так. Але гэта зусім не азначае, што пагляды Чыгіра і Саснова не прытрымлівaліся іншыя. Наадварот, многія добра разумелі, чым усё скончыцца.

Усе прагнулі перамен, але з большасці арыентаваліся на выбары. У тым ліку і альтэрнатыўныя, якія потым правёў Віктар Ганчар.

Думаю, у лагеры Лукашэнкі добра ведалі пра такія настроі, таму палітычную фронду паступова пачалі адцясняць. Напрыклад, хадзілі настойлівыя чуткі пра тое, што бліжэйшым часам мяне здымаюць з пасады. Гэтага не адбылося, але ў канцы 1998 года міністэрства знешнеэканамічных сувязяў, сапраўды, было расфарміравана і перададзена ў склад Міністэрства замежных спраў.

Безумоўна, гэта стала вынікам інтрыг Латыпава, які ў той час з памочнікаў прэзідэнта пераходзіў у міністры замежных справаў і ўмацоўваў пад сябе гэтую структуру, але яго памкненні вельмі хацелі падтрымаць у прэзідэнцкай адміністрацыі

***— Калі ў 2001 годзе вы вырашылі ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, некаторыя ўбачылі ў гэтым «уплыў Мясніковіча». Потым гэта тэза неаднаразова абвяргалася. Можа, прыйшоў час усё растлумачыць?***

— Так, прыйшоў, і я адкажу на ўсе пытанні ў кнізе. Зараз адзначу толькі, што ў тых плётак былі значныя падставы. У прыватнасці, адпачынак Мясніковіча, які тады кіраваў прэзідэнцкай адміністрацыяй, на рыжскім узмор'і. І гэта напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Ну, а я, як беларускі пасол, павінен быў з ім кантактаваць...

Дарэчы, пазней менавіта Міхаіл Уладзіміравіч патэлефанаваў мне ў Латвію, і яго галоўны мэсэдж можна сфармуляваць так — навошта табе гэта трэба?

***— І навошта?***

— Чытайце кнігу. Зараз адзначу толькі тое, што калі я праехаў па Латвіі і Эстоніі, пагаварыў з людзьмі, зразумеў — Беларусь не развіваецца, яе вядуць у тупік. У нашай краіне тады зноў пачала адраджацца бюракратыя, і заточана яна была толькі на рабскае ідалапаклонства, а не на дэмакратычныя каштоўнасці.

Краіна пагружалася ў дыктатуру, якая моцна ўплывала на развіццё эканомікі і эканамічны курс. У беларускім МЗС сталі традыцыйнымі накачкі замежных амбасадараў. Мы павінны былі не толькі шукаць грошы, але і хлусіць замежным калегам пра знікненні, пра таямнічыя смерці патэнцыйных канкурэнтаў Лукашэнкі, у прыватнасці, смерць Генадзя Карпенкі.

Бывала, прачынаешся ноччу, шмат думаеш пра тое, што адбываецца вакол, і прыходзіш да высновы — неабходна ўсё гэта тэрмінова спыніць. Гэта і было галоўным матывам майго кроку.

***— Як да рашэння стаць прэзідэнтам паставіліся ваша першая жонка, сваякі, сябры?***

— Адмоўна, бо разумелі, што гэта вельмі небяспечна. Дарэчы, да моманту вылучэння ніхто з іх не ведаў пра маё рашэнне. У тым ліку і жонка, з якой я тады быў у працэсе скасавання шлюбу.

***— Вас так і не дапусцілі да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах 2001 года. Хто вінаваты?***

— У першую чаргу тыя, хто кіраваў выбарчым штабам. Мяне банальна кінулі Сечка, Пашкевіч і Алампіеў. Яны добра ведалі, што да некаторых подпісаў будуць прэтэнзіі, але наўмысна падставіліся. А потым вельмі хутка вярнуліся на месцы сваёй былой працы.

***— Можа, ім нехта «дапамог»?..***

— Хутчэй за ўсё, так і ёсць. Ва ўсялякім выпадку будучы старшыня КДБ Сухарэнка публічна хваліўся, што яны ніколі не дапусцяць мяне да выбараў.

Крыўдна ў першую чаргу тое, што кінулі не толькі мяне, але і тысячы людзей, якія шчыра верылі і шчыра дапамагалі.

***— Вас называлі прарасійскім палітыкам. Гэта так?***

— Я заўсёды быў і застаюся палітыкам прабеларускім. А з усходнім суседам нам проста наканавана будаваць нармальныя адносіны. Як і з усімі астатнімі.

Так, у мяне былі і застаюцца добрыя сувязі са многімі расійскімі палітыкамі і бізнэсоўцамі, але трэба разумець, што палітыку краіны вырашаюць не яны, а Пуцін. А гэта, як кажуць у Адэсе, дзве вялікія розніцы.

На мой погляд, замуціў украінскую авантуру Пуцін вельмі дарэмна: выкарыстаў Майдан для таго, каб адцяць Крым і пачаць расколваць Украіну. Цалкам вар'яцкі крок.

***— Так гэта ж наш галоўны хаўруснік?***

— На жаль... На мой погляд, Беларусі не трэба было так глыбока ўлазіць у балота інтэграцыі. І падмяняць славянскае сяброўства поўнай эканамічнай залежнасцю. Калонія не можа быць роўнай метраполіі.

Да таго ж, Пуцін — не ўся Расія. Нельга ставіцца да ўсяго рускага як да нечага «каларадскага». Спявак Андрэй Макарэвіч, які стаў сімвалам падтрымкі Украіны, таксама размаўляе на рускай мове і жыве ў Маскве.

Што датычыцца Парашэнкі, то тут у мяне таксама шмат пытанняў. Не гатовы ён да такой пасады. Вельмі цяжкі прыйдзецца несці крыж...

***— А што галоўнае зараз для беларускіх апазіцыянераў?***

— Адзінства. Зразумела, што спецслужбы заўсёды будуць даволі настойліва працаваць супраць апанентаў улады. Але і апазіцыянеры не павінны так адвабочна ім дапамагаць.

***— Наступствы вашага кроку былі даволі сумныя: амаль два гады турмы, страчанае здароўе...***

— Але былі не толькі паразы. Той жа Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў мяне ахвярай палітычнай расправы. Няхай постфактум, але маральная перамога ўсё ж адбылася.

***— У вас было ўсё — замежныя камандзіроўкі, дэпутацтва, высокія пасады (мэр Мінска, амбасадар, міністр), а потым — апала, турма, два інсульты. Не шкадуеце?***

— Не. Перад сумленнем і Богам мне абсалютна не сорамна.



# Алег Трусаў: «Паспеў зрабіць болей, чым марыў»

Марат ГАРАВЫ

**7 жніўня выбітны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння Алег Трусаў адсвяткаваў сваё 60-годдзе.**

Зімем Алега Трусава асацыююцца грунтоўныя даследаванні манументальнага дойлідства Беларусі XI–XVIII стагоддзяў, здабыццё краінай незалежнасці і 15-гадовае кіраўніцтва Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Чытачам «Новага Часу» Алег Трусаў распавёў пра свае карані і пра набалелыя праблемы нацыянальнага жыцця.

## Узыходжанне

Нарадзіўся я ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе і з ранніх гадоў палюбіў аўру і помнікі гэтага горада, а таксама гісторыю Мсціслаўскага княства. Тым больш, што мой родны прадзед кіраваў у Мсціславе будоўлямі і пакінуў пасля сябе выдатны помнік мадэрну — мужчынскую гімназію, якая да гэтага часу ўпрыгожвае горад.

Вось чаму я заўжды ганаруся сваім прадзедам, які паходзіў з мясцовай беларускай шляхты. А другая лінія родзічаў па маці была з мясцовых мяшчан. Бацька ж мой з Расіі, і ўвогуле ў Мсціслаў трапіў выпадкова. Так сталася, што з чатырох з палавай гадоў я жыў без бацькоў, бо яны разышліся і раз'ехаліся.

Выхоўвалі мяне прабабка і бабка. Дарэчы, прабабка, якая выхавала дзевяць дзяцей і пражыла 100 гадоў, гадавала мяне ў дарэвалюцыйных хрысціянскіх традыцыях, таму і зараз я адчуваю сябе чалавекам XIX стагоддзя.

Прабабка верыла ў Бога, але малілася дома, у царкву не хадзіла і пры гэтым гаварыла: не вер папам, бо яны п'яніцы і жулікі. Мабыць, таму мне было даволі лёгка ў жыцці, бо бальшавіцкая прапаганда на мяне фактычна не ўздзейнічала. Хоць я і мусіў з ёй лічыцца і быў у камсамоле, а потым па просьбе Зянона Пазьняка ўступіў у КПСС, каб ратаваць помнікі даўніны. Але да ўсяго гэтага ставіўся скептычна.

Мне вельмі моцна пашанцавала, што нашая сям'я сябравала з сям'ёй Міхася Ткачова — ягоная маці і мая бабуля былі лепшымі сяброўкамі. Да маёй бабулі ў дзіцячы сад хадзіў малы Міхась Ткачоў, а ўжо я ў першы клас пайшоў да ягонай маці Дамінікі Сямёнаўны Казлоўскай. Яна была лепшай настаўніцай у раёне.

Менавіта яна дзесьці ў трэцім класе завяла нас на раскопкі Замкавай гары Мсціслава, якія праводзіў вядомы савецкі археолаг Леанід Васільевіч Аляксееў. І калі я ўбачыў гэты падземны горад, адразу вырашыў стаць археолагам.

На выбар будучай прафесіі паўплывалі і расповеды малодшага брата прабабкі Зміцера Палеўскага — патомнага піцерскага рабочага, які быў знаёмы з Уладзімірам Леніным, размаўляў з Львом Троцкім, пакутаваў у ГУЛАГу і фашысцкіх канцлагерах. Так што Мсціслаў даў мне пуцёўку ў жыццё.

У 17 гадоў, скончыўшы школу з залатым медалём, я паехаў з Мсціслава ў Мінск і адразу паступіў на гістфак Беларускага дзяржуніверсітэта. Так што з 1971 года маё жыццё звязанае са сталіцай. Жыў у інтэрнаце, потым на прыватнай кватэры, урэшце атрымаў кватэру сам.

Адзінае, пра што шкадую, — пражыў большую частку жыцця. Аднак здзіўляюся, колькі многа паспеў зрабіць — нашмат болей, чым пра гэта марыў. І зоркі заўжды мне спрыялі. Калі зыходзіў з дому, на дзвярах хаты крэйдай напісаў сваё любімае лацінскае выслоўе «Per aspera ad astra» («Праз церні да зорак»).

Я з задавальненнем вучыў лаціну і ўсе астатнія дысцыпліны, быў ленінскім стыпендыятам, на «выдатна» скончыў БДУ, потым на «выдатна» паступіў у аспірантуру, упершыню ў СССР напісаў кандыдацкую дысертацыю па методыцы даследавання помнікаў архітэктуры, абараніў яе ў Ленінградзе, праз тры месяцы атрымаў паведамленне з Масквы, што стаў кандыдатам гістарычных навук, а затым выдаў першую сваю манаграфію.

Што тычыцца маёй палітычнай і грамадскай дзейнасці, дык спачатку яны былі выпадковымі, хоць у жыцці нічога выпадковага не бывае. Ёсць нейкія вышэйшыя законы, згодна якім наканаваны лёс кожнага чалавека на Зямлі.

## Набалелае

***Пра айчынную гісторыю***

Самая вялікая праблема — акадэмічная гісторыя Беларусі не даходзіць да большасці грамадзян краіны. Атрымліваецца, што гісторыя існуе сама па сабе, а грамадзяне Беларусі існуюць таксама самі па сабе, бо адасобленыя ад свайго мінулага. І нашая галоўная задача — як мага шчыльней наблізіць нацыянальную гісторыю да простага народа.

**Трагедыя беларусаў — адсутнасць у краіне палітычнага лідара**



У вырашэнні гэтага пытання для мяне заўжды ўзорам была Літва. Вось літоўцы здолелі яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя сваю гісторыю, часта выдуманую, міфалагізаваную, так наблізіць да простага народа, што кожны літоўскі селянін добра ведаў пра Вітаўта і Альгерда, хоць чытаць-пісаць мог і не ўмець.

***Пра гістарычную адукацыю***

Нашая гістарычная адукацыя вельмі схаластычная і амаль не звязаная з простым жыццём і жывой чалавечай практыкай. А ўся сістэма адукацыі ўвогуле знаходзіцца ў глыбокім крызісе і катастрафічным стане.

Па-першае, гэтая сістэма адукацыі ненацыянальная, а па-другое, педагагічныя кадры нікуды не вартыя. Бо сённяшняя дзяржава паставіла настаўніка ў такі прыніжаны стан, у якім ён не быў за ўсю тысячагадовую гісторыю Беларусі. Горшай сітуацыі з настаўнікамі не было ніколі.

Нават сталінскі рэжым цаніў настаўніка і плаціў яму адносна добрыя грошы, не кажучы пра царскі рэжым. Тады на свой заробак настаўнік мог кватэру здымаць і вялікую сям'ю ўтрымліваць, як Якуб Колас. Вось чаму і падчас царызму, і пры Сталіне настаўнік добра выконваў свае абавязкі.

Я памятаю, як мой любімы настаўнік гісторыі і класны кіраўнік, франтавік, кавалер некалькіх медалёў «За адвагу» Юрый Захаравіч Нікіцін дабіўся праз Магілёўскае аблана, каб мне ў выпускным класе замест незаконна пастаўленай чацвёркі паставілі пяцёрку і вярнулі залаты медаль. Гэты настаўнік быў сумленным чалавекам, хоць камуністам і сталіністам. І свой прадмет ён выкладаў сумленна. Таму мы і ведалі гісторыю, хоць яна выкладалася па сталінскіх падручніках.

Зараз выпускнікі школ — абітурыенты ВНУ, хоць маюць высокія адзнакі па прадмету — ад 7 да 10 балаў, але нічога не ведаюць па гісторыі. Пасля ж атрымання вышэйшай адукацыі гэтыя людзі будуць вучыць нашых дзяцей. І чаму яны могуць навучыць?

***Пра палітыку***

Трагедыя беларусаў — адсутнасць у краіне палітычнага лідара. Пакуль няма чалавека, які можа сказаць свае аўтарытэтнае слова, да якога прыслухаецца народ. У іншы свет адышлі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, а іхнія сябры Ніл Гілевіч і Радзім Гарэцкі знаходзяцца ў вельмі паважаным узросце.

Вось чаму наша галоўная задача, каб народ вылучыў новага палітычнага лідара. Не выключана, што такім лідарам можа быць і жанчына, бо жаночы фактар у свеце зараз вельмі моцны. Далёка хадзіць не трэба — паглядзім на Літву, дзе прэзідэнтам паўторна абраная Даля Грыбаўскайтэ, возьмем Украіну, дзе вялікім аўтарытэтам карыстаецца Юлія Цімашэнка, а мая равесніца 60-гадовая Ангела Меркель не першы год цудоўна кіруе Нямеччынай.

На маё меркаванне, нацыянальным лідарам Беларусі неўзабаве можа стаць і жанчына, бо мужчыны аказаліся не зусім здатнымі да лідарства. Некаторыя загінулі, некаторыя ўцяклі за мяжу, а некаторыя схаваліся ў бульбу.

Да таго ж, усё нашае жыццё не вельмі спрыяе выхаванню ў мужчынаў якасцяў гаспадара, у тым ліку і лідарскіх якасцяў. І не трэба забывацца, што жаночы фактар быў заўсёды моцным у айчыннай гісторыі, пачынаючы з Рагнеды і Ефрасінні Полацкай. На маё меркаванне, не менш за 10 сучасных беларусак могуць годна кіраваць краінай.

***Пра грамадскае жыццё***

Галоўная праблема грамадскага жыцця — яго адарванасць ад дзяржавы. А ўнутры грамадства кожны жыве сам па сабе па старому прынцыпу «мая хата з краю». Калісьці гэты прынцып дазволіў беларускай нацыі выжыць. Зараз упершыню за апошнія 500 гадоў мы 70 гадоў жывем без вайны. Такое было толькі пасля Грунвальдскай перамогі 1410 года.

Таму я аптыміст. Гэтыя 70 год без вайны праз пэўны час дадуць краіне пад'ём і росквіт. Пры ўмове, што не будзе новай вайны. Пагроза анексіі з усходу над намі вісіць, як ніколі. Але ўкраінскія падзеі, хоць і трагічныя, усё ж такі даюць надзею на нейкі аптымізм. Бо агрэсія на Украіне забуксавала. А калі забуксавала там, дык наўрад ці агрэсар нападзе на Беларусь.

Прытым апошнія апытанні беларусаў сведчаць, што ёсць сотні тысяч суайчыннікаў, якія гатовыя бараніць сваю Бацькаўшчыну са зброяй у руках. А гэтая вялікая партызанская сіла зробіць Беларусь для агрэсара другой Чачнёй. Таму, верагодней за ўсё, агрэсар сюды не пойдзе, а захоча захапіць нашу краіну эканамічным шляхам і забраць нашу маёмасць, у тым ліку і зямлю. Вось чаму галоўная задача грамадства — не аддаць гэтую маёмасць, у першую чаргу нашу зямлю, прыхадням з Усходу і Захаду.

## Мары

Днямі я сам сабе зрабіў падарунак да 60-годдзя — скончыў працу над кнігай "Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі", у якой упершыню зроблена спроба распавесці пра мінулае айчыннага дойлідства ад каменнага веку да 1991 года. Спадзяюся, што неўзабаве гэтая кніга будзе надрукаваная.

Але самае галоўнае маё жаданне — дачакацца перамогі дэмакратычных сілаў у Беларусі. Бо я вельмі хачу, каб на маім жыцці ў краіну вярнулася наша старадаўняя нацыянальная сімволіка, родная беларуская мова зноў запанавала ў школах і ўніверсітэтах, а краінай урэшце кіраваў чалавек, які б 24 гадзіны ў суткі гаварыў па-беларуску.

TV

## 18 ЖНІЎНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь! .
**07.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь! .
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь! .
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**11.00** Меладрама «Лясное возера».
**12.00** Навіны.
**12.10** Меладрама «Лясное возера».
**13.05** Драма «Трэцяе неба».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Ленінград». 1-я серыя.
**16.30** Нашы.
**16.25** Музычная камедыя «Карнавальная ноч-2 ці 50 гадоў пасля».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.55** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Баявік «Тры ікс».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!» .
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік.».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**22.05** Фільм «Каханне з паведамленнем».
**23.00** Трылер «Драпежнік-2».
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Чыстая праца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.30** «24 гадзіны».
**13.35** «Вялікі горад».
**14.30** Музычны фестываль «Дружба».
**15.35** «Уявіце сабе».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.40** «Ежа багоў».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**10.00** Тэлебарометр.
**10.30** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).
**11.30** Дэтэктыўны серыял «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**13.00** Мастацкі фільм «Іван ды Мар'я».
**14.20** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня» Кулінарны майстар-клас (Расія).
**15.00** Камедыя «Трэзор».
**16.35** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**17.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.55** У тэме.
**18.35** Вёсачка мая.
**18.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі».
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.40** Хачу ў тэлевізар! .
**23.45** Дэтэктыўны серыял «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**01.00** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Аўтамат для газіроўкі.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Дзіцячы фільм «Казка пра цара Салтана».
**09.25** «Размаўляем па-беларуску».
**09.30** «Пацалунак Сакрата». Мастацкі фільм паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Фільм пяты «Плача анёл Шагала». 2-я серыя.
**10.20** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Марк Шагал. Колер кахання». Дакументальны фільм.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра і акцёра Міколы Трухана.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** Сусветнае кіно. «Раксана».
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.15** «Сімвалы эпохі». Аўтамат для газіроўкі.
**13.25** «Будзе доўгім развітанне. Міхаіл Пташук». Дакументальны фільм.
**14.20** «Размаўляем па-беларуску».
**14.25** Серыял. «Мегрэ». 73-я - 78-я серыі.
**19.05** «Калейдаскоп».
**19.15** «Сімвалы эпохі». Аўтамат для газіроўкі.
**19.25** «Размаўляем па-беларуску».
**19.30** Дзіцячы фільм. «Джульбарс».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Пацалунак Сакрата». Мастацкі фільм паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Фільм шосты «Таямніца залатых апосталаў». 1-я серыя.
**22.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Марк Шагал. Колер кахання». Дакументальны фільм.
**22.35** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра і акцёра Міколы Трухана.
**23.55** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Хакей. «Дынама» (Мінск) - зборная клубаў Беларусі.
**09.50** Баскетбол. Беларусь - Македонія.
**11.30** Пляжны футбол. Суперфінал Еўралігі-2014.
**12.40** Тэніс. Турнір ВТА. Цынцынаці. Фінал.
**14.45** Футбол. «Дынама» (Мінск) - БАТЭ.
**16.30** Футбол. «Манчэстар Юнайтэд» - «Суёнсі».
**18.25** Футбол. 1 тур. «Ньюкасл» - «Манчэстэр Сіці».
**20.20** Час футболу.
**21.00** Футбол. Агляд тура.
**21.55** Футбол. «Берылі» - «Чэлсі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**07.15** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**07.40** Хто ёсць кім?: «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**08.05** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): ЖКГ: за што і каму плацім?.
**08.35** «Cinema Komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**09.35** «Трэцяя скрыпка», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**11.05** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**11.35** «Ціхі хаос», маст. фільм, 2008 г., Італія.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.25** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 2.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Абразлівае слова?.
**18.35** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**19.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Полацкі езуіцкі універсітэт.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Ціхі хаос», маст. фільм, 2008 г., Італія.
**23.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.15** Аб'ектыў.

## 19 ЖНІЎНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь! .
**07.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь! .
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.50** Слова мітрапаліта Паўла.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Серыял «Адмираль» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Ленінград». 2-я серыя.
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.00** Навіны.
**00.15** Дзень спорту.
**00.25** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Камедыя «Прэлюдыя да пацалунку».
**00.50** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**09.00** «Дзіўная справа».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.50** Фільм «Пасля заходу».
**15.40** Мае цудоўныя.
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Паліцэйская акадэмія».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Апошняе лета ў Бойце».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.35** Дэтэктыўны серыял «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**13.00** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**14.05** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**15.00** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.15** Вышэй за дах.
**17.55** Сімвал веры.
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.45** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Хачу ў тэлевізар!
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Напалі» - «Атлетык».
**23.55** Дэтэктыўны серыял «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**01.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.
**01.15** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Размовы пра духоўнае».
**07.50** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**08.05** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.15** Дзіцячы фільм. «Джульбарс».
**09.25** «Размаўляем па-беларуску».
**09.35** «Пацалунак Сакрата». Мастацкі фільм паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Фільм шосты «Таямніца залатых апосталаў». 1-я серыя.
**10.25** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Міхаіл Кікоін. Паэтычны свет на палатне». Дакументальны фільм.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці спевака Віктара Кірычэнкі.
**11.20** «Размаўляем па-беларуску».
**11.25** «Гармонік». Мастацкі фільм паводле аднайменнай паэмы Аляксандра Жарава.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Размовы пра духоўнае».
**12.40** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**12.55** «Ігар Лучанок. Мелодыя лёсу». Дакументальны фільм пра кампазітара, народнага артыста БССР і СССР.
**13.50** «Мая настаўніца Айша». Дакументальны фільм.
**14.05** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** Серыял. «Мегрэ». 79-я - 84-я серыі.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размовы пра духоўнае».
**19.05** «Сімвалы эпохі». Інтурысты.
**19.15** Мультфільм.
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** Дзіцячы фільм. «Фантазіі Вяснухіна». 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Калейдаскоп».
**21.20** «Пацалунак Сакрата». Мастацкі фільм паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Фільм шосты «Таямніца залатых апосталаў». 2-я серыя.
**22.10** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Міхаіл Кікоін. Паэтычны свет на палатне». Дакументальны фільм.
**22.35** «Падкідыш». Мастацкі фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці спевака Віктара Кірычэнкі.
**00.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Агляд тура.
**09.00** Футбол. «Берылі» - «Чэлсі».
**10.55** Час футболу.
**11.00** Лёгкая атлетыка. Вячэрняя сесія.
**15.45** Хакей. Турнір памяці Руслана Салея. «Нёман» (Гродна) - зборная клубаў Беларусі.
**17.40** Тэніс. Уімблдон. Мужчыны. Паўфінал.
**21.05** Спорт-кадр.
**21.35** Футбол. «Бешыкташ» (Турцыя) - «Арсенал» (Англія).
**23.50** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.50** Размовы эксперта.
**09.10** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Полацкі езуіцкі універсітэт.
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 11 серыя.
**10.25** Назад у будучыню.
**10.35** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1 і 2.
**11.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 11 серыя.
**17.00** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.25** Беларусы ў Польшчы.
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 11 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Яўрэі. Жыды. Габрэі.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.30** «Шанц на«Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тайныя таварыствы.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**22.20** «Лонданцы», серыял: 11 серыя.
**23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.05** Аб'ектыў.

TV

## 20 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Тэлесерыял «Адміраль» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Ленінград».
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.50** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Маст. фільм «Цэзар павінен памерці».
**00.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**08.30** «Вам і не снілася».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Паліцэйская акадэмія».
**15.40** Мае цудоўныя.
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Боскія таямніцы сястрычак Я-Я».
**22.20** Глядзець усім!
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** Фільм «У белым палоне».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.50** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.40** Дэтэктыўны серыял «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана» (СССР).
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі».
**14.15** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**15.00** Маст. фільм «Адысея капітана Блада».
**17.00** Рэпарцёр.
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.45** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. «Слован» - БАТЭ.
**21.40** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**22.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон» (Вялікабрытанія).
**23.45** Хачу ў тэлевізар!
**23.50** Дэтэктыўны серыял «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана» (СССР).
**01.10** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40, 12.25, 18.35** «Сімвалы эпохі». Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Дзіцячы фільм. «Фантазіі Вяснухіна». 1-я серыя.
**09.05** «Размаўляем па-беларуску».
**09.15** «Пацалунак Сакрата». Мастацкі фільм паводле рамана Вольгі Тарасевіч. Фільм шосты «Таямніца залатых апосталаў». 2-я серыя.
**10.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Файбіш-Шрага Царфін (Зарфін). Эззянне колеру». Дакументальны фільм.
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Падкідыш». Мастацкі фільм.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.40** Л.-В.Бетховен. Сімфонія №9 рэ мінор. Выканаўцы: Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Дырыжор - Аляксандр Анісімаў.
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.55** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм паводле апавяданняў Якуба Коласа.
**14.35** «Імя Баграціёна». Дакументальны фільм пра ўсе этапы праведзення ўнікальнай аперацыі «Баграціён».
**15.30** «Адвечным шляхам». Дакументальны фільм пра лёс і творчасць філосафа, паэта, публіцыста Ігната Канчэўскага.
**15.45** «Цуды прыроды». Ісландыя. Лаос.
**16.15** Серыял «Пракляты ўтульны дом». 19-я серыя.
**17.00** «Размаўляем па-беларуску».
**17.05** «Драўляны народ». Дакументальны фільм пра разьбяра, народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка.
**17.35** «Пра каханне...» Драматычная гісторыя Барбары Радзівіл і Караля польскага і Вялікага князя літоўскага Жыгімонта ІІ Аўгуста.
**18.05** «Персона». Іван Краско.
**18.25** «Калейдаскоп».
**18.50** Мультфільмы.
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** Дзіцячы фільм. «Фантазіі Вяснухіна». 2-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Участак лейтэнанта Качуры». Мастацкі фільм. «Сеткавая пагроза». 1-я серыя.
**22.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Файбіш-Шрага Царфін (Зарфін). Эззянне колеру». Дакументальны фільм.
**22.30** «Дваранскае гняздо». Мастацкі фільм паводле рамана І.С.Тургенева.
**00.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага.
**00.45** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Агляд гульнявога дня.
**08.35** Футбол. «Бешыкташ» (Турцыя) - «Арсенал» (Англія).
**10.30** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).
**12.25** Спорт-кадр.
**12.55** Козел пра футбол.
**13.15** Лёгкая атлетыка. Вячэрняя сесія.
**16.00** Хакей. «Дынама» (Мінск) - ХК «Сочы».
**17.55** Спорт-кадр.
**18.25** Баскетбол. Данія - Беларусь.
**20.30** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 3. Этап.
**21.35** Футбол. «Стандард» (Бельгія) - «Зеніт» (Расія).
**23.35** Футбол. «Слован» (Славакія) - БАТЭ (Беларусь).

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тайныя таварыствы.
**09.15** Басаног па свеце.
**09.35** Назад у будучыню.
**09.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**10.40** «Вострый Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**11.10** «Лонданцы», серыял: 11 серыя.
**17.00** Басаног па свеце.
**17.25** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Наста Лойка.
**17.45** «Глыбокая вада – 2», серыял: 10 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Асіміляцыйная мяккасць – пад пагрозаю.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.20** «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Людская справы»: Канфлікт ва Украіне: як дзейнічаць беларусам?
**21.55** «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**22.25** «Белая візітоўка», серыял: 4 серыя.
**23.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.20** Аб'ектыў.

## 21 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Ленінград».
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея» (Расія).
**17.40** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** «Вялікая вайна». Дакументальны фільм. Заключная серыя.
**22.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.00** Навіны.
**23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!» .
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**22.40** Камедыя «Аслепленыя жаданнямі».
**00.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.50** Фільм «Боскія таямніцы сястрычак Я-Я».
**16.05** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5: Рака душ» (ЗША, 1998 г.).
**22.00** «Глядзець усім!» .
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Усё жыццё наперадзе» .

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** Маст. фільм «Адысея капітана Блада».
**13.15** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**14.20** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**15.15** Меладрама «Скрыжаванне».
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.45** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.45** Меладрама «Скрыжаванне».
**01.00** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Калінка-малінка.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Дзіцячы фільм. «Фантазіі Вяснухіна». 2-я серыя.
**09.05** «Размаўляем па-беларуску».
**09.15** «Участак лейтэнанта Качуры». Мастацкі фільм. «Сеткавая пагроза». 1-я серыя.
**10.10** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Восіп Цадкін. Перапляценне святла і ценяў». Дакументальны фільм.
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Станіслава Ларчанкі.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Дваранскае гняздо». Мастацкі фільм паводле рамана І.С.Тургенева.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Сімвалы эпохі». Калінка-малінка.
**13.15** Дж.Вердзі. «Баль-маскарад». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**15.35** «Размаўляем па-беларуску».
**15.40** «У цэнтры Еўропы». Дакументальны фільм пра непаўторную прыгажосць беларускай прыроды ў Глыбоцкім раёне.
**16.00** «Музей Янкі Купалы». Дакументальны фільм пра экспазіцыю музея і яго філіялы.
**16.15** Серыял «Пракляты ўтульны дом».
**17.00** «Размаўляем па-беларуску».
**17.05** «Любоў і жыццё маё...». Дак. фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**17.40** «Падарожжа са смакам». Швейцарыя.
**18.10** «Персона». Таццяна Міхалкова.
**18.30** «Калейдаскоп».
**18.40** «Сімвалы эпохі». Калінка-малінка.
**18.55** Мультфільмы.
**19.50** «Размаўляем па-беларуску».
**19.55** Мультфільм «Таямніца трэцяй планеты».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Участак лейтэнанта Качуры». Мастацкі фільм. «Сеткавая пагроза». 2-я серыя.
**22.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Восіп Цадкін. Перапляценне святла і ценяў». Дакументальны фільм.
**22.30** «У жніўні 44-га...» Маст. фільм паводле рамана У.Багамолава «Момант ісціны».
**00.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Станіслава Ларчанкі.
**00.55** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Агляд гульнявога дня.
**08.45** Футбол. «Слован» (Славакія) - БАТЭ (Беларусь).
**10.45** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Данія - Беларусь.
**12.30** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен.
**16.25** Футбол. «Стандард» (Бельгія) - «Зеніт» (Расія).
**18.45** Авертайм.
**19.20** Футбол. Агляд гульнявога дня.
**19.55** Футбол. «Дынама» (Мінск) - «Насьянал» (Партугалія).
**22.00** Футбол. ПСВ (Нідэрланды) - «Шахцёр» (Беларусь).
**23.55** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Чвэрцьфінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** «Людская справы»: Канфлікт ва Украіне: як дзейнічаць беларусам?
**09.00** «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1831 года.
**09.35** Басаног па свеце.
**10.05** Назад у будучыню.
**10.15** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Наста Лойка.
**11.30** «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**11.00** «Белая візітоўка», серыял: 4 серыя.
**17.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.30** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя птушкамі.
**17.45** «Глыбокая вада – 2», серыял: 11 серыя.
**18.30** Моўнік: Ці трэба нам «іры»?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Чорным па белым: Сучаснае мастацтва: місія ці рамяство?
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Эмілія Плятэр.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Івашчанка і Гэнік Лойка.
**21.55** «Белы ветраз над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**22.50** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.40** Аб'ектыў.

## 22 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь! .
**07.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь! .
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь! .
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** «Terra incgnita». Беларусь невядомая.
**15.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**16.25** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Мастацкі фільм «Тры ікс-2».
**23.30** Навіны.
**23.45** Дзень спорту.
**00.00** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!» .
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.25** Камедыя «Прыгоды зубнога лекара».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешное і яшчэ смяшней».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**23.40** Вострасюжэтны фільм «Тонкая чырвоная лінія».
**02.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Вам і не снілася».
**09.50** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Вавілон-5: Рака душ» (ЗША, 1998 г.).
**15.35** «Мае цудоўныя ...».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Аналізуй то».
**22.10** «Глядзець усім!» .
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.45** Фільм «15 хвілін славы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** Мазгавы штурм.
**11.20** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоу-праграма (Расія).
**11.50** Камедыя «Дон Сезан дэ Базан».
**14.20** Прыгодніцкі серыял «Смерць у раі» (Вялікабрытанія - Францыя).
**15.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.55** Камедыя «Эвалюцыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія).
**22.35** Рэпарцёр.
**23.20** Трылер «Парфумер: Гісторыя аднаго забойцы».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Дазвольце расказаць». Раман Карцаў.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Мультфільм. «Таямніца трэцяй планеты».
**08.50** «Размаўляем па-беларуску».
**08.55** «Участак лейтэнанта Качуры». Мастацкі фільм. «Сеткавая пагроза». 2-я серыя.
**09.50** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Леў Бакст. Майстар лініі». Дакументальны фільм.
**10.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра-балетмайстара Галіны Шыленковай-Воранавай.
**10.45** «Размаўляем па-беларуску».
**10.50** «У жніўні 44-га...» Мастацкі фільм па матывах рамана Уладзіміра Багамолава «Момант ісціны».
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Дазвольце расказаць». Раман Карцаў.
**13.10** А.Стрынберг. «Бацька». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.
**15.00** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**15.30** «Глыбокае». Дакументальны фільм пра адзін з старадаўніх габарадоў Беларусі.
**15.45** «Пейзажы скрозь час». Амерыканскія імпрэсіяністы ў Жыверні, Францыя.
**16.10** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 21-я серыя.
**17.00** «Размаўляем па-беларуску».
**17.05** «Шамбала». Дакументальны фільм пра дзівосныя мясціны прыроды - беларускія балоты.
**17.35** «Лёс старой кнігі». Дакументальны фільм пра ўнікальныя кніжныя помнікі - рукапісныя кнігі XVI-XIX стагоддзяў, якія захоўваюцца ў Веткаўскім музеі Гомельскай вобласці.
**17.50** «Адкрыты сезон». Дакументальны фільм пра Беларускую дзяржаўную філармонію.
**18.30** «Калейдаскоп».
**18.40** «Дазвольце расказаць». Раман Карцаў.
**18.50** Мультфільмы.
**19.25** «Размаўляем па-беларуску».
**19.30** Дзіцячы фільм. «Што ў Сенькі было».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Участак лейтэнанта Качуры». Мастацкі фільм. «Сеткавая пагроза». 3-я серыя.
**22.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Леў Бакст. Майстар лініі». Дакументальны фільм.
**22.30** Сусветнае кіно. «Праз Сусвет».
**00.35** «АРТиШОК». Мастак Аляксандр Родзін.
**01.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра-балетмайстара Галіны Шыленковай-Воранавай.
**01.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.55** Авертайм.
**08.25** Тэніс. Чвэрцьфінал.
**10.30** Футбол. «Дынама» (Мінск) - «Насьонал» (Партугалія).
**12.25** Футбол. ПСВ (Нідэрланды) - «Шахцёр» (Беларусь).
**14.25** Лёгкая атлетыка. Вячэрняя сесія.
**19.00** Еўрапейскі покерны тур.
**20.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфінал.
**22.00** Хакей. «Дынама» (Мінск) - «Нёман» (Гродна).
**23.25** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).
**00.50** Пляжны футбол. Суперфінал Еўралігі-2014.
**02.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфінал.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Два на два (тэледыскусія): Анатоль Івашчанка і Гэнік Лойка.
**08.55** Чорным па белым: Сучаснае мастацтва: місія ці рамяство?
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Эмілія Плятэр.
**09.35** Аўтаспынам па Беларусі.
**10.10** Назад у будучыню.
**10.20** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя птушкамі.
**10.35** «Глыбокая вада – 2», серыял: 11 серыя.
**11.20** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.15** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.25** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**17.45** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 12 серыя.
**18.30** Моўнік: Моўнік адказвае.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Святлана Уланоўская: крытык – пра сучасны танец.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**20.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Да 150-годдзя смерці К. Каліноўскага. Нацыянальны герой ці тэрарыст?.
**22.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**22.20** «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**00.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.10** Аб'ектыў.

## 23 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Існасць.
**07.50** Меладрама «Палын - трава праклятая».
**09.00** Навіны.
**09.10** Меладрама «Палын - трава праклятая».
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.35** Таямніцы следства.
**14.10** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**16.40** Камедыйная меладрама «Артыстка з Грыбава».
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Павуцінка бабінага лета».
**23.20** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.30** Мастацкі фільм «Гусарская балада».
**14.10** «Фестываль бардаўскай песні».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.55** Камедыя «Канікулы строгага рэжыму».
**18.55** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Паўтары!».
**23.20** Мастацкі фільм «Наступствы кахання».

### ТВ

**06.05** «Турысты». Серыял.
**07.20** Фільм «Аналізуй то».
**09.05** «Чысты праца».
**10.00** Іншая краіна.
**10.45** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.35** Фільм «Будзьце маім мужам» (СССР, 1981 г.).
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.35** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** Фільм «Апошні самурай». ЗША, 2003г.
**22.30** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.50** Фільм «Суіні Тодд, дэман-цырульнік з Фліт-стрыт».
**01.45** «Глядзець усім!» .

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Дзіцячы фільм «Прынцэса на гарошыне».
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.20** Беларуская кухня.
**11.00** Тэлебарометр.
**11.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**13.25** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоу-праграма (Расія).
**14.00** Камедыя «Дон Сезан дэ Базан».
**15.00** Вышэй за дах.
**17.05** Баявік «Скарб Амазонкі».
**19.15** Ваша лата.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**20.40** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.40** Мастацкі фільм «Двухсотгадовы чалавек».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Заўтра - гэта мы!».
**08.35** «Размаўляем па-беларуску».
**08.45** Серыял. «Мегрэ». 85-я - 90-я серыі.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Наперад у мінулае».
**14.00** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** «Вечар памяці тэлежурналіста Аляксандра Чуланава».
**15.05** «АРТиШОК». Мастак Аляксандр Родзін.
**15.35** «Новыя прыгоды Швейка». Мастацкі фільм.
**16.40** «Размаўляем па-беларуску».
**16.45** «Дакрананне». Дакументальны фільм пра Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.
**17.15** «Таямнічая кветка папарацi». Дакументальны фільм.
**17.30** «Дрысвяты. Песня і лёс». Дак. фільм.
**18.05** «Лісабонскія таямніцы». Мастацкі фільм. 4-я - 6-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Карыялан».
**23.10** «Капітан тайгі. Уладзімір Арсеньеў». Дакументальны фільм з серыі «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**00.00** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфінал.
**11.30** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).
**13.45** Еўрапейскі покерны тур.
**14.40** Футбол. «Астан Віла» - «Ньюкасл».
**16. 55** Футбол. «Чэлсі» - «Лестэр».
**18.55** Фактар сілы.
**19.25** Футбол. «Эвертан» - «Арсенал».
**21.30** Авертайм.
**22.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Фінал.
**00.00** Футбол. «Саўтгэмптан» - «Вэст Броўміч».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Прыгоды Цiўкi», «Прыгоды і паходы».
**08.55** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 1 серыя.
**09.20** Форум (ток-шоу): Да 150-годдзя смерці К. Каліноўскага. Нацыянальны герой ці тэрарыст?.
**10.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**10.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** «Лонданцы», серыял: 11 серыя.
**11.25** «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**12.00** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Прыгоды Цiўкi», «Прыгоды і паходы».
**12.35** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 1 серыя.
**13.00** «Дом ля праплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**13.45** «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**15.35** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**16.30** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Забойцы».
**17.15** «Алкаш», дакументальны фільм, 2009 г., Польшча.
**17.40** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**18.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**19.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.15** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**20.30** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Сяррод белага дня», трымценнік, 2009 г., Канада.
**22.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 12 серыя.
**23.30** «Глыбокая вада», серыял: 10 серыя.
**00.15** МакраФон: «Be Free – 2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**00.50** Аб'ектыў.

TV

## 24 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** Дакументальны цыкл «Яны спявалі за Радзіму». Фільм 9-ы.
**14.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.40** Камедыйная меладрама «Іронія лёсу. Працяг».
**19.00** Меладрама «Палын - трава праклятая».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Трылер «Калі тэлефануе незнаёмец».
**23.50** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Ідэальны рамонт».
**12.40** Мастацкі фільм «Лепшае лета нашага жыцця».
**13.30** Фільм «Безназоўная зорка».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Маладыя мільянеры».
**17.25** «Асяроддзе пражывання».
**18.30** «Хвіліна славы».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Здабытак Рэспублікі. Лепшае».
**23.10** Фільм «Жамчужына Ніла».

### СТВ

**06.00** «Турысты». Серыял.
**07.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.25** Фільм «Апошні самурай». ЗША, 2003г.
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.20** «Добры дзень, доктар».
**12.55** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**13.55** Фільм «Трэмбіта» (СССР, 1968 г.).



**15.40** «Глядзець усім!» .
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Пакуль не згуляў у скрыню» (ЗША, 2007 г.).
**22.30** СТВ прадстаўляе: Музычны фестываль.
**23.50** Фільм «Прытулак».
**01.15** «Дакументальны спецпраект».

### Беларусь 2

**07.35** Фільм «Асліная шкура».
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.25** Мазгавы штурм.
**10.55** Тэлебарометр.
**11.00** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**13.00** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**13.35** Баявік «Скарб Амазонкі».
**15.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.05** Камедыя «Эвалюцыя».
**18.05** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Мазгавы штурм.
**21.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.35** Трылер «Парфумер: Гісторыя аднаго забойцы».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы». Жанчына ў ісламе .
**08.40** «Размаўляем па-беларуску».
**08.45** Серыял. «Мегрэ». 91-я - 96-я серыі.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.25** «Лісабонскія таямніцы». Мастацкі фільм. 4-я - 6-я серыі.



**17.05** «Капітан тайгі. Уладзімір Арсеньеў». Дакументальны фільм з серыі «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**17.55** «Размаўляем па-беларуску».
**18.00** «Спрадвечнае». Абрад «Зажынкі».
**18.15** «Аўтограф». Студыя цыркавога мастацтва «Арэна» ў горадзе Мазыр.
**18.45** Сусветнае кіно. «Праз Сусвет».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.
**22.25** «Культпрасвет».
**22.55** Ж.Пуарэ. «Сямейны ўікэнд». Спектакль Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра.
**00.30** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**08.10** Футбол. «Саўтгэмптан» - «Вэст Броўмвіч».
**10.05** Футбол. «Эвертан» - «Арсенал».
**12.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Фінал.
**14.10** Пляжны футбол. Суперфінал Еўралігі-2014.
**15.25** Футбол. «Тотэнхэм» - КПР.
**17.25** Фактар сілы.
**17.55** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Беларусь - Бельгія.
**19.45** Футбол. «Сандэрлэнд» - «Манчэстар Юнайтэд».
**21.40** Аўтаспорт. Драг-рэйсінг. Этап чэмпіянату Беларусі і Кубка Расіі.
**23.10** Футбол. «Хал Сіці» - «Сток Сіці».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Ліс Леон».
**07.45** «Зорны пірат», тэлесерыял: 4 серыя.
**08.10** Свабода без гальштукаў!.
**08.40** «Стоп,ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**09.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 12 серыя.
**10.35** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**11.30** Аўтаспынам па Беларусі.
**11.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Моўнік адказвае.
**12.00** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Ліс Леон».
**13.00** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю – 2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».
**14.05** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**15.25** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 12 серыя.
**16.10** «Размовы з конямі», дак. фільм, Канада.
**16.30** «Сярод белага дня», трымценнік, 2009 г., Канада.
**17.55** «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.25** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**18.45** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.00** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя – Расія: ч. 3.
**20.00** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Прачытаўшы, спаліць!», камедыя, 2009 г., ЗША.
**22.50** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 3 серыя.
**23.40** «Глыбокая вада – 2», серыял: 11 серыя.
**00.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю – 2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход. по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

# Да і пасля Майдану

**Майдану, а дакладней, намётавага гарадка апазіцыі, у Кіеве больш няма. 10 жніўня яго знішчыла група людзей у цывільным і супрацоўнікі камунальных службаў. Пра тое, як ліквідацыя Майдану адлюструецца на ўкраінскім палітычным працэсе, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім палітолагам Юрыем Паляніным.**




***— Пасля лютаўскай рэвалюцыі ва ўкраінскім грамадстве ўзнік сапраўдны культ Майдану. Часта гучала прапанова пакінуць лагер у цэнтры гораду назаўсёды як кантрольны орган народа над уладай, як страхоўка ад таго, што палітыкі не прафукаюць рэвалюцыю, як было пасля Майдану 2004-га. Аднак 10 жніўня на абарону намётаў выйшла ўсяго 200–300 чалавек. Як гэта разумець?***

— Карэкціроўка стаўлення да Майдану стала магчымай дзякуючы інфармацыйнай кампаніі па ўсіх каналах. Грамадству за пару месяцаў навязалі думку, што на барыкадах засталіся дэкласаваныя элементы, дармаеды і алкаголікі, якія не жадаюць ваяваць на ўсходзе. Ахвотна смакаваліся выявы дохлых пацукоў або труп сабакі, якія знайшлі каля барыкад. Мелі месца шакуючыя рэпартажы пра быт Майдана. Напрыклад, пра тое, што ў двух метраў ад месца смерці сябра Нябеснай сотні майданаўцы зрабілі прыбіральню. Узнік нават тэрмін «алкасотня». Такім чынам быў створаны патрэбны для разгону Майдану грамадскі фон. Цікава, што ворагамі грамадства ў выніку сталі тыя ж самыя майданаўцы, якіх СМІ яшчэ месяц таму выстаўлялі нацыянальнымі героямі. Іх месца герояў цяпер займаюць свядомыя кіяўляне, якія выйшлі прыбіраць свой родны горад ад смецця. Хаця, калі прыглядзецца, знешне «свядомыя кіяўляне» — гэта спартовага складу маладзёны. Іншым словамі, тыя самыя цітушкі, якія яшчэ нядаўна за грошы працавалі на мітынгах Януковіча. Пад «навядзеннем парадку» разумелася знішчэнне канструкцый, намётаў і нават студый на Майдане. У намёты, жыхары якіх не жадалі сыходзіць з пляцу, кідалі кактэйлі Молатава. За «свядомымі кіяўлянамі» ўслед ішлі камунальнікі з тэхнікай.

***— Ад 800 да 2000 чалавек. Прыкладна так розныя СМІ ацэньвалі колькасць людзей, якія стала жывуць на Майдане. Куды падзелася ў нядзелю 10 жніўня гэтая людская маса, чаму не было масавага супраціву?***

— Хутчэй за ўсё, яны проста перабраліся ў будынкі, якія з часоў рэвалюцыі кантралююцца сотнямі самаабароны Майдану. Гэта пакоі ў шэрагу гатэляў, Кастрычніцкі палац, Украінскі дом. Нельга сказаць, што супраціву не было. Былі і бойкі, і новая спроба захопу будынку кіеўскай адміністрацыі. Аднак для саліднага масавага пратэсту гэтага аказалася мала. Перш за ўсё, не хапала сродкаў на ўтрыманне інфраструктуры Майдану. Па сутнасці, гэта кажа на карысць версіі, што без сур'ёзнай фінансавай падтрымкі такая ініцыятыва, як Майдан, доўга пратрымацца не можа.

***— Чаму тэму разгону Майдана не выкарысталі палітыкі, якія крытыкуюць Клічко і Парашэнку? Раней на Майдане круціўся Ляшко. Цімашэнка абяцала на соты дзень кіравання Парашэнкі таксама выйсці на Майдан.***

— У мяне няма адказу на гэта пытанне. З іншага боку, тая ж Цімашэнка не падтрымала Майдан, аднак і асудзіла ўчынак улады. Яна заняла такую пазіцыю, якая ў прынцыпе дазволіць ёй у выпадку патрэбы абвінаваціць Клічко ў знішчэнні Майдану.

***— Улада не хавае, што разгон Майдану спатрэбіўся для правядзення 25-га жніўня вайсковага параду, які, быццам, правядуць з нагоды перамогі над сепаратыстамі. Ці ёсць у ўкраінскіх сілавікоў шансы на тое, каб за дні, што засталіся да параду, цалкам зачысціць Данбас ад прыхільнікаў ДНР-ЛНР.***

— Хутчэй за ўсё, не. Апошнімі часам напружанне на фронце расце. Нядаўна паведамілі, што ў Сумах забралі на фронт нават тэхніку з музею Другой сусветнай вайны. Знаёмыя ў Луганску кажуць, што Масква ўзняла ледзь не ў тры разы заробак для байцоў апалчэння (раней яны атрымлівалі ў дзень 200 долараў, зараз — каля 700). Я таксама схіляюся да версіі, што ўкраінскім жаўнерам спецыяльна дазволілі перанесці баі ў Данецк і Луганск, паколькі гэта аўтаматычна вызваліла ўлады нефармальных рэспублік адказваць на балючыя пытанні пра сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў абласных цэнтрах. Расія будзе ўтрымліваць нейкі кавалак украінскай тэрыторыі, каб трымаць пад кантролем расійскі шавінізм. Па сутнасці, Пуцін паўтарае тую ж памылку, што і Януковіч, які праз кепскі разлік палітычных тэхнолагаў пачаў фінансаваць нацыяналістычную партыю «Свабода», якая абудзіла ў натоўпе на Майдане радыкальны інстынкт, што знішчыў яго рэжым.

***— Вяртаючыся да Майдану. Пасля рэвалюцыі фракцыя актывістаў, якая працягвала сядзець на Майдане, пазіцыянавала сябе як нейкі трэці, грамадзянскі полюс украінскай палітыкі — не Партыя рэгіёнаў і не старая апазіцыя. Прапаноўвалася нават ідэя новай рэвалюцыі, гэтак званы Майдан–3. Чаму гэты праект не атрымаўся?***

— Вакол Майдана сапраўды круцілася шмат праектаў правай і правацэнтрысцкай арыентацыі. Са сцэны Майдана яны крытыкавалі Яцэнюка, чыноўнікаў, сілавікоў. Аднак па сутнасці тэматыка прамоў аматараў праекту Майдан–3 засталася ў рамках таго ж палітычнага дыскурсу, які характэрны ўрадавым партыям і афіцыёзу. Лепшым прыкладам тут ёсць заклікі да вайны да пераможнага канца, якія можна было часта пачуць на нядзельных вечах Майдану. Між тым, нізавы антывайсковы рух — гэта цяпер, напэўна, самы моцны грамадзянскі пратэст у краіне. Майдан упарта не жадаў яго заўважаць, а тым больш падтрымліваць.

***— Ва Украіне дастаткова складаная эканамічная сітуацыя. Эканамісты кажуць, што ВУП у гэтым годзе можа скласці мінус 15 працэнтаў. Дэвальвацыя грыўні з часоў перамогі рэвалюцыі ўжо каля 60 працэнтаў. Напэўна, магчыма новая хваля вулічных пратэстаў. У такім выпадку людзі пойдуць зноў на Майдан, або гэты пратэст будзе мець іншы фармат?***

— Думаю, што галоўнай характарыстыкай новых пратэстаў будзе большая схільнасць яго ўдзельнікаў да парушэння Крымінальнага кодэксу, да агрэсіі, паколькі прававая культура ў грамадстве дэградуе шалёнымі тэмпамі. Аднак нават з улікам кепскага стану эканомікі, рызыкну прагназаваць, што маштабных сацыяльных выступаў пакуль не будзе. Тэма патрыятызму пакуль кансалідуе грамадства. Хіба толькі ў справу не палезуць алігархі. Па сутнасці, Каламойскі і тандэм Лёвачкін — Фірташ ужо вядуць вайну за сферы ўплыву. У тым ліку часам нават арганізуючы ў абласцях, дзе кіруе нейкі не блізкі аднаму з іх губернатар, антывайсковыя пратэсты. На жаль, сродку абароны ад алігархічных войнаў Украіна не ведае.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На некаторы рост транзіту праз Беларусь тавараў з санкцыйнага спісу Масква, хутчэй за ўсё, заплюшчыць вочы. Лукашэнка разумее, што геапалітычны праект ЕАЭС занадта важны для Крэмля, і гуляе на гэтым. З улікам чаканых звышпрыбыткаў [ад увозу тавараў праз Беларусь] складана не выказаць здагадку, што тавары праз лясныя сцежкі будуць ісці існа. Бізнэс па пераўпакоўцы мае такую рэнтабельнасць, што людзі, асабліва якія маюць доступ да ўлады, напэўна паспрабуюць яго арганізаваць. Пасля заяваў Лукашэнкі ўсе разумеюць, што спробы прайсці праз мытныя пасты Беларусі і Казахстана будуць не так ужо і асуджацца.

**«Ведомости» (Расія)**

У 2015 годзе ў Беларусі пройдуць чарговыя прэзідэнцкія выбары — і гандлёвыя канфлікты Расіі і Захаду могуць зогляць на руку Аляксандру Лукашэнку: Беларусь пакуль у дадзенай вайне — гандлёвай, эканамічнай — выйграе. Як і з пазіцыі сваіх міратворчых заяваў. Але калі паглядзець у цэлым на беларускую эканамічную сітуацыю, то тут заўсёды ёсць выпадковасць, поспех, які дазваляе да канца пяцігадовага тэрміну (прэзідэнцкага), выцягнуць або падцягнуць эканоміку да той планкі, якая неабходная ў кароткі перадвыбарчы перыяд. Вось гэтая вайна на дадзены момант і з'яўляецца тым цяглавым канём, які дазваляе падцягнуць эканоміку да сярэдзіны альбо пачатку 2015 года, — гэта значыць, да выбараў.

**«RFI» (Францыя)**

Перакінуць да 15 ваенных самалётаў Расіі прапанаваў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сакавіку гэтага года. Паводле яго слоў, гэта «адэкватная рэакцыя» на рост натаўскага кантынгенту каля беларускіх межаў. Аб стварэнні паўнавартаснай авіябазы казаў у красавіку міністр абароны Сяргей Шойгу — тады месцам яе дыслакацыі быў названы горад Ліда. Гэты жэст мае хутчэй палітычнае значэнне, чым ваеннае. Становішча спраў у беларусаў у чымсьці нагадвае ўкраінскае. Відаць, самі ўтрымліваць авіятэхніку яны не могуць, дарыць ім Масква не хоча, таму паступаюць такім чынам. Па сутнасці, расійскія ВПС замяняюць сабой беларускія, яшчэ мацней прывязваючы Беларусь да Расіі.

**«Руская планета» (Расія)**

Парадаксальна, што чалавек (Бакіеў), які прызнаны судом вінаватым у здзяйсненні цяжкіх злачынстваў, атрымлівае такую высокую дзяржаўную ўзнагароду Рэспублікі Беларусь. Гэта не адпавядае духу двухбаковых кыргызска-беларускіх дамоваў. Дзіўна, што дадзеным ордэнам узнагароджваюцца «за значны ўклад у справу ўмацавання міру, дружалюбных адносін і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, кансалідацыі грамадства і адзінства народаў». Узнікае пытанне, ся можа Бакіеў спрыяць усяму вышэйпералічанаму, калі з моманту яго ўцёкаў з Кыргызстана кыргызскай-беларускія адносіны ідуць толькі па сыходзячай?

**«KNEWS» (Кіргізія)**

Расія пакуль не каментуе адкрыта сяброўскі тон паміж Кіевам і Мінскам. Магчыма, Масква імкнецца трымаць адкрытай яшчэ адну пляцоўку для кантактаў з Украінай, маркуючы агляда́льнікі. Маўчанне афіцыйнай Масквы на фоне супрацоўніцтва Мінска і Кіева звязана з жаданнем Расіі захаваць Беларусь як самага актыўнага чальца Мытнага і Еўразійскага саюза. Расія разумее, што вялікі і прэстыжны геапалітычны праект — Еўразійскі саюз — не працуе, калі выкарыстоўваць толькі ціск. Пры гэтым Расія захоўвае вельмі моцны ўплыў на Беларусь менавіта дзякуючы пастаўкам энерганосьбітаў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЕНЕСУЭЛА. Шрыфт імя Чавеса

Група прыхільнікаў Уга Чавеса арыгінальна адзначыла 60-ю гадавіну нараджэння лідара Баліварскай рэвалюцыі. Чавісты распрацавалі кампутарны шрыфт «El Comandante's». Формы літараў «El Comandante's» нагадваюць літары, якімі пісаў Уга і якія ведала ўся краіна. Справа ў тым, што падчас персанальнай перадачы "Алё, прэзідэнт", якая нагадвала па фармату вялікае селектарнае пасяджэнне, Чавесу прыходзілася тлумачыць прысутным і гледачам свае грандыёзныя планы. Для гэтага ён часта маляваў на паперы нейкія схемы і дэманстраваў іх у аб'ектыў камеры. Почырк у Уга быў вельмі арыгінальны, і хутка яго ведаў кожны венесуэлец. Цяпер почыркам Чавеса можа пісаць кожны. Рэвалюцыйны шрыфт можна спампаваць з сайту пад назвай Creative Trench. Трэба прызнаць, што забаўка вельмі спадабалася жыхарам краіны, што, натуральна, не вельмі радуе правую апазіцыю, адзін з прадстаўнікоў якой ужо заявіў, што Чавес пісаў як курыца лапай.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. Ганаровая гвардыя як сродак рэкламы

Незвычайны скандал у палітычным жыцці Румыніі. Прэм'ера Віктара Понта, лідара сацыял-дэмакратаў, абвінавацілі ў выкарыстанні жаўнераў ганаровай гвардыі для палітычнага піяру. Зроблена гэта, быццам, за кошт колеру іх мундзіраў. Гвардзейцы, якія ахоўваюць афіцыйныя ўстановы, традыцыйна мелі ўніформу, у якой дамінаваў сіні колер. Аднак цяпер урад прапанаваў насіць мундзіры чырвонага колеру. Фішка ў тым, што чырвоны — гэта партыйны колер сацыял-дэмакратаў. З улікам таго, што на носе прэзідэнцкія выбары, з'яўленне на вуліцах вайскоўцаў у чырвоных мундзірах апанента Віктара Понты ўспрынялі як выкарыстанне ім службовых паўнамоцтваў у карыслівых мэтах. Працаўнікі эсдэкаў ужо звярнуліся да гісторыкаў, якія вымушаны прызнаць, што ў чырвоных мундзірах румынскія войскі ніколі не хадзілі.

**Паводле румынскай прэсы**

### КІТАЙ. Камуністы пішуць Евангелле

Дырэктар дзяржаўнага дэпартаменту па справах рэлігій Кітайскай Народнай Рэспублікі выступіў з вельмі цікавай заявай. Паводле яго слоў, у Кітаі плануюць распрацаваць уласнае хрысціянскае багаслоўе, якое будзе «сумяшчальна з сацыялістычным курсам развіцця краіны». Як падкрэсліў чыноўнік, уласная тэалогія павінна быць таксама адаптавана пад нацыянальныя асаблівасці і культуру Кітая. Палітолагі не маюць адзінай думкі наконт незвычайнай тэалагічнай ініцыятывы Пекіну. Некаторыя лічаць, што мы маем справу з працягам старой рэпрэсіўнай палітыкі кітайскіх камуністаў у адносінах да рэлігіі наогул і да хрысціянства, у прыватнасці. Як вядома, у розныя часы каталікі і пратэстанты ў Кітаі былі ахвярамі камуністычнага тэрору. Іншыя мяркуюць, што ініцыятыва дэпартамента па справах рэлігіі звязаная з ростам папулярнасці хрысціянства ў краіне. Паводле ацэнак спецыялістаў, каля 70 мільёнаў грамадзян КНР вераць у Ісуса Хрыста. Нарэшце, самыя вялікія аптымісты кажуць, што намер «дапамагаць развіццю хрысціянства» можна расцаніць як працяг паступовай рэжыму ад камуністычнай артадоксіі.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Марына Парашэнка не ведае мовы



Ва Украіне першы буйны скандал, звязаны з Марынай Парашэнка: жонка прэзідэнта Пятра Парашэнкі, аказваецца, не размаўляе на ўкраінскай мове. Падчас інтэрв'ю аднаму з украінскіх каналаў яна прызналася, што вымушана вучыцца размаўляць па-ўкраінску ў побыце, і гэта для яе дастаткова цяжкі занятак. Гэта, натуральна, не спадабалася ўкраінскім нацыяналістам. Найбольш радыкальныя прапануюць увесці тэст для жонак тых, хто жадае заняць кіруючыя пасады. Між іншым, у тым інтэрв'ю Марына паабяцала вывучыць мову на працягу 10 год прэзідэнцтва яе мужа. З улікам таго, што кадэнцыя прэзідэнта ва Украіне складае 5 год, тым самым першая дама дала зразумець: Пётр Парашэнка ўжо зараз думае пра тое, каб пайсці на другі тэрмін.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# У чаканні новых фюрэраў

*Алег НОВІКАЎ*

**У нямецкай зямлі Саксонія ў разгары кампанія па выбарах у рэгіянальны парламент. Вынікі галасавання могуць паўплываць на ўвесь палітычны пейзаж ФРГ.**




Адной з неафіцыйных візітак Дрэздэну — сталіцы Саксоніі — ёсць традыцыйны марш неанацыстаў, які праходзіць штогод 14 лютага ў памяць ахвяр бамбардзіроўкі гораду брытанскай авіяцыяй у 1944 годзе (тады загінула каля 200 тысяч чалавек). У гэты дзень горад становіцца Меккай для карычневых пілігрымаў з усёй Германіі, што, натуральна, вельмі не падабаецца мясцовым жыхарам.

Адной з прычын неанацысцкай вольніцы ёсць наяўнасць у зямельным парламенце дэпутацкай групы праварадыкальнай Партыі нацыянал-дэмакратаў, якая дапамагае аднадумцам у арганізацыі маршу на 14 лютага. Выкурыць неанацыстаў з парламенту (больш у Германіі такіх прэцэдэнтаў няма) — доўгі час было адной з галоўных мараў саксонскай прагрэсіўнай грамадскасці. І вось нарэшце іх мары блізкія да рэалізацыі. Калі верыць апытанням, на зямельных выбарах 31 жніўня нацдэмам свеціць не больш за 2,5–3 працэнты (для праходу ў парламент неабходна атрымаць 5 працэнтаў).

Аднак эйфарыі ў антыфашысцкім лагеры не назіраецца. Прычына ў тым, што на змену нацдэмам ідзе іншая правапапуліцкая палітычная сіла, прычым значна больш масавая і папулярная сярод выбаршчыкаў. Створная еўраскептыкамі ўвесну мінулага года «Альтэрнатыва за Германію» (AfD) імкліва набірае пункты. Спачатку аматары выхаду Германіі з зоны еўра прарваліся ў Еўрапарламент, атрымаўшы 10 працэнтаў. А наступным трафеем AfD, хутчэй за ўсё, стане Саксонія. Сацыялагічныя агенцтвы прагназуюць, што партыя атрымае не менш за сем працэнтаў.

На першы погляд, асаблівых падстаў турбавацца за стабільнасць нямецкай палітычнай сістэмы няма. Партыі, якія крытыкавалі Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) з правых пазіцый, і раней час ад часу праходзілі ў ландтагі, напрыклад, партыя рэспубліканцаў у 1980-я гады. Аднак паколькі ніякіх канструктыўных наступстваў іх прысутнасць у ландтагах не мела, на наступных выбарах ультраправыя, што называецца, праляталі са свістам.

У дадатак яшчэ не забылася драма Партыі піратаў, таксама маладой партыі, якая прыкладна пару гадоў таму зрабіла сенсацыю. Піраты, чый рэйтынг дасягаў 10 працэнтаў, гуляючы пераскоквалі пяціпрацэнты бар'ер на мясцовых выбарах і ўжо рыхтаваліся да пераезду ў Бундэстаг. Аднак шэраг гучных скандалаў вакол права на дзіцячую парнаграфію ў інтэрнэце, спрэчкі ўнутры кіраўніцтва расчаравалі бюргераў. Не выключана, што «Альтэрнатыва для Германіі», якая не менш пакутуе на папулізм, паўторыць пірацкі шлях.

Такое ўражанне сапраўды ўзнікае, калі чытаеш праграмныя матэрыялы «Альтэрнатывы для Германіі» або рэпартажы з яе выбарчых акцый. Выданне "Der Spiegel" даслала рэпарцёра на сустрэчу выбаршчыкаў з Фраўке Петры (Frauke Petry) — лідарам саксонскай секцыі «Альтэрнатывы для Германіі». Фраў Петры заклікала прысутных любіць традыцыйныя каштоўнасці немцаў — станаўнасць, парадак, а таксама вывучаць родную гісторыю. Стандартам для кожнай немкі, на яе думку, мае быць тры дзіцяці ў сям'і. Аднапартыйцы Фраўке таксама ахвотна кажуць пра крымінагенны характар імігрантаў.

Увогуле, галоўнымі выбарчымі лозунгамі кампаніі саксонскай «Альтэрнатывы для Германіі» ёсць абяцанне прыняць закон пра абавязковы мясцовы плебісцыт у выпадку праектаў будаўніцтва на тэрыторыі грамады мячэці або мінарэта. Другі галоўны праграмны пункт — увядзенне квоты для нямецкамоўных музыкаў на радыёстанцыях.

Відавочны папуліцкі кантэнт праграмных заяў AfD не павінен выклікаць усмешкі. Па-першае, таму, што Саксоніяй апетыты «Альтэрнатывы для Германіі» наўрад ці абмяжуюцца. Літаральна праз пару тыдняў пасля Саксоніі выбары адбудуцца ў двух суседніх усходніх землях — Цюрынгія і Брандэнбург. Добры вынік саксонскай секцыі AfD можа выклікаць эфект даміно і дазволіць партыі мець прадстаўніцтва ў трох зямельных парламентах. Такі ход падзей робіць яе сур'ёзным палітычным актарам.

Як сведчыць статыстыка, ахвярамі ўздыму «Альтэрнатывы для Германіі» стануць меркелеўскія хрысціянскія дэмакраты, чый электарат будзе пераходзіць пад сцягі еўраскептыкаў. Таму ў апараце Хрысціянска-дэмакратычнага саюзу (CDU) пачынаючы з вясны цягнецца мазгавы штурм наконт пытання AfD. Перад вачыма Меркель і яе аднапартыйцаў стаіць брытанскі прыклад, дзе мясцовы клон AfD пад назвай «Партыя незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства» па папулярнасці там-сям ужо абыходзіць торы.

Некаторыя лічаць, што трэнд можна спыніць за кошт больш агрэсіўнай нацыяналістычнай рыторыкі. Так, група дэпутатаў-кансерватараў у Бундэстагу паспрабавала перахапіць фішку AfD пра дамінаванне ў нямецкім радыёэфіры англамоўных шлягераў. Дэпутаты ініцыявалі закон аб квотах для нямецкамоўных музыкаў, перапісаны з моўнага кодэксу Францыі, дзе 40 працэнтаў радыёэфіру мае быць франкамоўнымі. Ліберальнае крыло CDU у сваю чаргу лічыць, што гульні ў нацыяналізм у Германіі могуць кепска скончыцца. Акрамя таго, ёсць прыклад Францыі, дзе галісты пад кіраўніцтвам Сарказі намагаліся ўзяць на карыстанне ў Нацыянальнага фронту яго антыэміграцкія пасажы. Асаблівага поспеху гэта не прынесла.

Між тым, самае цікавае яшчэ, магчыма, наперадзе. Нягледзячы на высокі рэйтынг (каля 45 працэнтаў) хрысціянскія дэмакраты Саксоніі не атрымліваюць патрэбнай для фармавання аднапартыйнага кабінету колькасці мандатаў. Ім неабходны партнёр па кааліцыі, галоўным кандыдатам на гэта лічыліся эсдэкі. Апошніх, аднак, перспектыва быць малодшымі партнёрамі асабліва не вабіць.

Тады ўзнікла опцыя блоку кансерватараў з еўраскептыкамі. З такой прапановай выступіў лідар саксонскіх чорных (чорныя — партыйны колер CDU) Станіслаў Ціліх (Stanislaw Tillich). Заява Ціліха, хаця і выклікала шмат крытыкі з боку аднапартыйцаў, але па сутнасці стала бомбай. Уключэнне ў склад саксонскага ўраду адчыняе AfD шлях у дзяржаўныя інстытуты. Такім чынам, у дзяржаўных установах ФРГ можа з'явіцца партыя, якая ідэйна больш правая за кансерватараў. Такога краіна не ведала з 1930-х гадоў. Застаецца спадзявацца, што «Альтэрнатыве для Германіі» знойдзецца альтэрнатыва.

# Луі дэ Фюнес: манархіст-камедыянт

Алег НОВІКАЎ

**Францыя адзначае сотую гадавіну нараджэння вялікага коміка Луі дэ Фюнеса, а палітыкі розных лагераў спрачаюцца за яго спадчыну.**



Распавядаюць, што падчас вайсковага становішча ў Польшчы кожную нядзелю прыкладна а 9–10 ранку па тэлебачанні дэманстравалі адзін з фільмаў з удзелам Луі дэ Фюнеса. Сэнс дэманстрацый камедый заключаўся ў тым, каб прымусіць палякаў сядзець дома, а не ісці ў касцёл на нядзельныя набажэнствы, якія ў той час часта заканчваліся антыўрадавымі прамовамі. Вопытным шляхам камуністы ўстанавілі, што грымасы Луі здольныя загіпнатызаваць паляка настолькі, што ён забудзе і пра дыктатуру, і пра эканамічныя праблемы.

Самае забаўнае ў гэтым расповедзе, як творчасць артыста выкарыстоўвалі ў барацьбе з Касцёлам, тое, што Луі дэ Фюнес у жыцці быў заўзятым каталіком, і нават манархістам. Напрыклад, вядома, што ён штогод браў удзел у набажэнствах у памяць караля Людовіка XVI і іншых ахвяраў якабінскага тэрору. Дэ Фюнеса, па словах яго сябровак, вельмі цешыла тое, што фанатам яго творчасці быў Рымскі папа Ян XXIII (1958–1963).

З розных інтэрв'ю артыста відаць, што рэлігія сапраўды займала важнае месца ў яго светапоглядзе. Вось, напрыклад, фрагмент інтэрв'ю коміка 1981 года:

***— Вы вернік?***

— Натуральна, зразумела.

***— Як доўга?***

— Вельмі доўга. Можна сказаць, я ім быў заўжды... Ісус быў яркім спадарожнікам майго дзяцінства, яркім спадарожнікам майго прафесійнай жыцця і самога жыцця.

***— Гэта дапамагло вам у вашым прафесійным жыцці?***

— Безумоўна. У мяне было шмат поспехаў, і гэта, верагодна, дзякуючы яму.

***— Вы маеце здольнасць чуць Ісуса?***

— Я яго не чую, я яго адчуваю.

Гэта рэлігійнасць — следства таго, што сям'я дэ Фюнес належыць да старога каталонскага арыстакратычнага роду, прадстаўнікі якога эмігравалі ў Францыю ў 1904 годзе. Цікава, што Луі нарадзіўся літаральна ў той жа дзень, калі пачалася Першая сусветная вайна — 29 ліпеня 1914 года, што з улікам яго будучай прафесіі коміка выглядае вельмі правакацыйна.

Нягледзячы на блакітную крою, Луі вырашыў зрабіць акторскую кар'еру, прайшоў праз усе этапы, і толькі пад пяцьдзясят гадоў дабіўся поспеху. Аднак якога поспеху! Луі дэ Фюнес разам з Эдыт Піяф і Астэрыксам лічацца самымі пазнавальнымі французамі мінулага стагоддзя. Сярод кінаактораў яму ўвогуле няма роўных: ніхто пасля дэ Фюнеса яшчэ не змог сабраць 230 мільёнаў гледачоў на свае фільмы.

З улікам такой папулярнасці юбіляра нічога дзіўнага, што сёння манархісты, клерыкалы і проста кансерватары кінуліся ўзгадваць камедыянта. Практычна на кожным сайце манархістаў можна наткнуцца на артыкул, прысвечаны Луі дэ Фюнесу. Выказаўшы захапленне яго акторскім талантам, аўтары такіх панегірыкаў абавязкова ўзгадваюць пра палітычныя погляды дэ Фюнеса. Напрыклад, сайт правай партыі Нацыянальны фронт адзначае: «Луі дэ Фюнес быў таксама глыбока набожны каталік. Вельмі прывязаны да традыцыі, ён, не вагаючыся, дапамагаў царкве. Напрыклад, яго шчодрае дзеянне дапамагла біскупу гораду Сэн-Нікаля-дзю-Шарданэ ў першыя гады акупацыі».

Больш таго, клерыкалы нават пасварыліся паміж сабою, да якой фракцыі Касцёла належыць дэ Фюнес. Прынамсі, адэпты вучэння Марселя Лефеўра (вельмі кансерватыўны накірунак у каталіцтве) лічаць, што думкі дэ Фюнеса пра рэлігію і хрысціянскую дактрыну цалкам адпавядаюць крытэрыям сябра іх секты.

Левыя выданні Францыі, апускаючы клерыкальныя погляды Луі дэ Фюнеса, звяртаюць увагу на тое, што яго творчасць мела прагрэсіўны характар. Як правіла, артыст выконваў ролі розных патронаў, якія ў яго выкананні выглядалі слабымі і смешнымі. У дадатак абавязкова ўзгадваюць стужку «Вялікая прагулка», якая мае відавочна антыфашысцкі мэсэдж. Дарэчы, гэты фільм быў самым касавым французскім фільмам з 1966-га да сярэдзіны 1990-х, калі яго рэкорд пабіў «Тытанік». Таксама не праходзяць левыя міма карціны «Рабін Якоб», у якой Луі дэ Фюнес смяецца з бытавых антысеміцкіх забабонаў, характэрных для пасляваеннай французскай эліты.

Нарэшце, на думку левых культуролагаў, Касцёл і Ватыкан ніколі б не выбачылі дэ Фюнесу задуманы ім праект зрабіць фільм па матывах Евангелля. Гэту ідэю ён агучыў у 1981 годзе, за два гады да смерці. Фільм пра Ісуса, па словах дэ Фюнеса, мусіў быць вельмі смешным.

Аднак самую незвычайную тэорыю ўплыву дэ Фюнеса на французскую палітыку прапанаваў сайт paperblog. Аўтар артыкулу на сайце, прааналізаваўшы грымасы, міміку, рухі, лексіку Луі дэ Фюнеса, прыйшоў да высновы, што гэта нагадвае стыль былога прэзідэнта Нікаля Сарказі (які, дарэчы, таксама вельмі малога росту). Быццам, менавіта за кошт асацыяцыі са славутым акторам Сарказі выклікаў у французаў падсвядомую сімпатыю да сваёй персоны. Тэорыя гучыць вельмі правакацыйна, аднак у любым выпадку яшчэ раз падкрэслівае маштаб фігуры Луі дэ Фюнеса. Як канстатуе французская прэса, «Луі дэ Фюнеса не здольны замяніць ніхто. Гэта геній».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Бюлент Арынч



Віцэ-прэм'ер Турцыі, адзін з лідараў «Партыі справядлівасці і развіцця» (AKP) на нейкі час стаў больш папулярнай асобай у Турцыі, чым новаабраны прэзідэнт Рэджэп Тайіп Эрдаган. Усё дзякуючы таму, што Бюлент Арынч заклікаў жанчын не смяяцца на людзях. «Жанчына павінна ведаць, што добра, а што дрэнна. Яна не будзе гучна смяяцца на людзях. Жанчына будзе паводзіць сябе стрымана, не прыцягваць да сябе ўвагі і захоўваць цнатлівасць», — лічыць палітык. Таксама не падабаецца яму, што жанчыны гавораць па мабільных тэлефонах. Выступ віцэ-прэм'ера хутка распаўсюдзіўся і атрымаў маланкавую рэакцыю: дзясяткі тысяч турэцкіх жанчын у сацыяльных сетках (Twitter, Facebook, Instagram) змясцілі фатаграфіі, на якіх яны смяюцца. Гэта паспрабавала выкарыстаць апазіцыя, лідар якой заявіў, што задача ўраду — менавіта ў тым, каб жанчыны смяяліся часцей і гучней. Пакуль цяжкая сказаць, ці паўплывалі словы віцэ-прэм'ера на настрой жаночага электарату, які раней галасаваў за AKP. У любым выпадку, выступ палітыка сведчыць пра дастаткова кансерватыўная настроі ў апараце турэцкага ўраду, які, як кажа новы прэзідэнт, будзе вырашаць глабальныя задачы.

### Барыс Джонсан



Кансерватыўны мэр Лондану мае някепскія шансы ў наступным годзе ўзначаліць брытанскі кабінет міністраў. Пра гэта сведчаць вынікі першых апытанняў брытанцаў наконт стаўлення да заявы сталічнага мэра пра намер пазмагацца за мандат дэпутата парламента і, адпаведна, за пасаду кіраўніка торы (у Англіі лідара партыі абірае фракцыя). Рэйтынг кансерватараў пайшоў уверх. Калі сітуацыя захаваецца, то вясной яны атрымаюць большасць на выбарах. Акрамя таго, каля 55 працэнтаў сябраў партыі падтрымліваюць лідарскія амбіцыі Барыса Джонсана. Праўда, іх не падтрымлівае цяперашні прэм'ер Давід Кэмеран. Такая сітуацыя можа выклікаць сур'ёзны канфлікт, у якім Кэмерану будзе цяжка перамагчы. Уся правая брытанская прэса, якая фармуе калектыўную думку кансерватыўнага выбаршчыка, прывітала крок Джонсана. Як пішуць газеты, вялікі аўтарытэт Джонсана як адміністратара, арганізатара Алімпіяды 2012 года, можа пераканаць брытанцаў галасаваць за торы. Курс Кэмерана на тое, каб прывабіць электарат абяцанкамі пра рэферэндум ад выхадзе краіны са складу ЕС, шмат каму падаецца авантурыстычным і занадта радыкальным.

### Алмазбек Атамбаеў



Прэзідэнт Кыргызстана зрабіў проста фантастычны для карумпаваных краін СНД учынак: даручыў МУС арыштаваць і дапытаць свайго роднага брата Калыйбека. Як высветлілася, пры вылеце з Масквы ў Бішкек брата кіраўніка дзяржавы затрымалі расійскія памежнікі ў сувязі з абвешчаным 20 гадоў таму вышукам. У той жа дзень, праўда, ён быў адпушчаны і вярнуўся ў Бішкек. «Калі сілавікі далажылі кіраўніку дзяржавы аб тым, што здарылася, Атамбаеў даручыў ім выконваць свае законныя працэдуры. Наўрад ці праваахоўныя органы наважыліся б без ухвалення прэзідэнта прыцягнуць да крымінальнай адказнасці яго роднага брата. З усімі вынікаючымі адсюль наступствамі», — паведамілі сілавікі. Старэйшы брат прэзідэнта, як аказалася, з'яўляецца фігурантам крымінальнай справы, якая на працягу 20 гадоў знаходзілася ў адным з РУУС Бішкека. 20 гадоў таму яго абвінавацілі ў невыкананні абавязацельстваў перад сваім камерцыйным партнёрам з Кітаю і, як бачым, нават падалі ў міжнародны вышук. Аднак з-за палітычных метамарфоз у Кыргызстане пра яе забыліся, затое памятаюць у маскоўскім МУС. У любым выпадку, для Калыйбека ўсё скончылася хутка. Ён пагадзіўся выплаціць грошы. Але цяпер высветлілася, што пацярпелы ад махінацый Калыйбека таямніча знік.

15 жніўня 2014 | № 30 (399) Новы час

# Сяргій Жадан: «Тое, чым мы жывем, дзеля чаго паміраем»

Сяргія Жадана любяць і ведаюць. Не толькі ва Украіне. Настолькі, наколькі ўвогуле сёння могуць ведаць сучаснага літаратара. Кніжкі вершаў выходзяць неймавернымі для яго калегаў-пэтаў накладамі. Кожны раман чакаецца і сустракаецца з энтузіязмам. На жывых выступах разам з гуртом «Сабакі ў космасе» публіка танчыць — і гэта пад вершы. Праўда, трэба ведаць, як Сяргій іх чытае. З усіх апытанняў вынікае, што Жадан — адзін з найаўтарытэтнейшых ва Украіне празаікаў і, безумоўна, «галоўны», калі можна так выразіцца, паэт. Хтосьці ўжо назваў яго найлепшым паэтам кірыліцы. (Не бяруся каментаваць, слаба ведаю, што пішуць сербы і балгары.) Хтосьці параўнаў з «Бітлз» — маючы на ўвазе, што кожная новая праца пераўзыходзіць папярэднія, хоць, здавалася б, куды далей. У Беларусі Сяргія — прызнаюся з лёгкім сумам як перакладчык — усё часцей чытаюць проста ў арыгіналах, па-ўкраінску, прывозячы і замаўляючы сябрам з аказіяй ягоныя кніжкі. Тым не менш, пералічыць усіх яго беларускіх перакладчыкаў — ад Алеся Аркуша да Антона Рудака — не хопіць пальцаў на руках. І калі хтосьці і паўплываў на нашых найлепшых маладых паэтаў, то з пэўнасцю — Жадан.

Жадан, які годна вытрымаў выпрабаванне не толькі літаратурнай славай, але і ўсімі катаклізмамі, праз якія праходзіла і праходзіць яго Украіна. Калі ў 2004 быў камендантам харкаўскага Майдану, а ў 2013 — адным з арганізатараў харкаўскага Еўрамайдану. Калі як аўтар сацыяльных тэкстаў і арганізатар шматлікіх акцыяў пляжыў розных оркаў і гоблінаў у харкаўскіх уладах. Калі змагаўся з культурнай падзеленасцю краіны — прывозячы ў Кіеў ды перакладаючы на ўкраінскую паэтаў з Луганска, палемізуючы з рознымі снобамі і даводзячы вартасць Усходняй Украіны. Калі ў часе нядаўніх падзеяў у Харкаве быў схоплены і не стаў на калені перад «міратворцамі» з георгіеўскімі стужкамі, за што быў жорстка збіты і потым сур'ёзна лекаваўся. Калі ў часе вайны пісаў — цяпер піша! — геніяльныя і вельмі своечасовыя для Украіны тэксты, абсалютна пазбаўленыя крыўды і агрэсіі. Тэксты, дзе прамаўляюцца старыя як свет біблейскія ісціны, пра якія мы схільныя забываць. Ісціны, што ў Сяргіевым перакaзе гучаць абсалютна не зацёрта, чапляюць самыя балючыя кропкі, але і адначасна нясуць надзею там, дзе нагодаў для яе, здавалася б, усё меней. Бо сіла па-ранейшаму ў любові, бо «усе нашы страхі прывідныя, бы снягі», а «чужымі нас робіць наша пагарда», што «сама нас знаходзіць і забівае сама».

**Андрэй Хадановіч**



### Чаму мяне няма ў сацыяльных сетках

### Голка

*Антон, трыццаць два гады,*
*у статусе было ўказана, што жыве з бацькамі.*
*Праваслаўны, хоць у царкву не хадзіў,*
*скончыў універсітэт, замежная — англьская.*
*Татуажнік, ён меў свой почырк,*
*калі так можна сказаць.*
*Праз ягоныя ўмелыя рукі й вострую голку*
*прайшоў не адзін натоўп мясцовых.*

*Калі ўсё пачалося, шмат казаў пра*
*палітыку ды гісторыю, пачаў хадзіць на*
*мітынгі,*
*перасварыўся з сябрамі.*
*Сябры абражаліся, кліенты зніклі.*
*Баяліся, не разумелі, з'язджалі з гораду.*

*Найлепей адчуваеш чалавека, кранаючыся*
*яго голкай.*
*Голка джаліць, голка сшывае. Пад цёплым*
*металам такое падатлівае палатно жаночай*
*скуры й такі шчыльны светлы брызент*
*скуры мужчынаў. Працінаеш чыюсьці*
*абалонку, выпускаючы з цела аксамітныя*
*кроплі крыві, б'еш і б'еш, выбіваеш*
*крылы анёлаў на пакорнай паверхні свету.*
*Б'еш і б'еш, татуажнік, бо мы пакліканыя*
*напаўняць гэты свет сэнсам, напаўняць яго*
*колерамі. Б'еш, татуажнік, гэтую*
*абшыўку, пад якою душы й хваробы —*
*тое, чым мы жывем, дзеля чаго паміраем.*

*Хтось расказаў, што яго падстрэлілі на*
*блок-пасце,*
*зранку, са зброяй у руках, неяк выпадкова —*
*ніхто нічога не паспеў зразумець.*
*Пахавалі ў агульнай магіле — іх там усіх так*
*і хавалі.*
*Асабістыя рэчы перадалі бацькам.*
*Статус так ніхто й не правіў.*

*Прыйдзе час і нейкая сволач*
*абавязкова напіша пра гэта гераічныя вершы.*
*Прыйдзе час і нейкая сволач*
*скажа, што пра такое наогул не трэба*
*пісаць.*

### Пашуковік

*Доўга яе шукаў. Нумар яна змяніла,*
*з гораду ўцякла, сацыяльнымі сеткамі*
*не карысталася. Праз знаёмых знайсці*
*не ўдалося, праз царкву таксама.*
*А потым сама напісала, пра справы,*
*пра пераезд, пра новыя акалічнасці й прывыканне.*

*Расказала пра брата, думаю, дзеля таго й*
*пісала —*
*каб расказаць пра брата, пра ягоную смерць.*
*Мабыць, звярталася з гэтым не толькі да*
*мяне, прынамсі —*
*не да мяне першага. Надта ўжо спакойна*
*пісала. Іх накрылі, пісала, усіх разам, адным*
*залпам. Потым нашы вярнуліся, хацелі*
*забраць загінулых. Дакладней — тое, што*
*ад іх*
*засталося. Найцяжэй было з нагамі. У кожнага*
*мае быць па дзве нагі. Яны іх так і складалі —*
*каб у кожнага было па дзве нагі, пажадана —*
*аднаго памеру.*

*Брат займаўся музыкай. Меў добрую гітару.*
*У яго яе ўвесь час пазычалі.*
*Вось што з ёй цяпер рабіць? — пытала яна. —*
*Я брала, спрабавала граць, з непрывычкі*
*парэзала пальцы.*
*Вельмі балела. Дагэтуль не зажывае.*

### Секта

*Андрэй і Павал, адвентысты, студэнты.*
*Тата-прадпрымальнік падтрымліваў грамаду,*
*яны звыклі ставіцца да царквы*
*як да часткі свайго жыцця —*
*бывалі там кожны дзень, дапамагалі*
*рабіць рамонт, выкладалі фота ў сетцы,*
*дзякавалі за падтрымку.*

*Іх і ў мірны час лічылі сектантамі,*
*а калі гэта ўсё пачалося — проста зладзілі*
*на іх паляванне. Хтосьці з'ехаў, хтосьці*
*схаваўся.*
*А іх абодвух схапілі. Трымалі ў падвале,*
*прымушалі хаваць забітых, капаць магілы.*
*Яны хацелі адкупіцца, баяліся, плакалі.*
*Іх перавялі ў іншую яму. Потым проста*
*забылі*
*пра іх, нібы іх і не існавала.*
*Сядзелі ў чорным падвале, слухалі цемру,*
*спачатку маліліся, потым кінулі —*
*саромеліся адзін аднаго.*

*Веру страчваеш тады, калі выпадае*
*магчымасць за яе памерці, а ты гэтай*
*магчымасцю не паспеў скарыстацца.*
*Навошта вера таму, хто бачыў, як усё выглядае насамрэч?*
*Навошта верыць у тое, што не мае для цябе*
*ніякага сэнсу?*
*Ніхто не кажа, што было са святымі, у якіх*
*на целе адкрываліся стыгмы. Што было з*
*тымі*
*стыгмамі? Яны самі сабой закрываліся,*
*як ружы ўвечары? Або доўга краватачылі,*
*гнаіліся і балелі пад бінтамі?*
*Мужчыны са сляпымі ад цемры вачыма*
*прыходзілі ў шпіталь на перавязку,*
*сціскалі зубы, калі сястра адрывала ім*
*ад раны засохлыя бінты і свежая кроў*
*праступала на цёмнай скуры. Прасілі*
*болеспатольнага, хоць бы якога.*
*Але не існуе ніякага болеспатольнага*
*ад таго, што ў іх баліць, не існуе.*

### Марадзёр

*Кепская біяграфія,*
*з такіх біяграфіяў робяць ранішнія навіны.*
*Стары яго замерз у снежні, у пустым трамваі.*
*У мамы праблемы з цукрам.*
*Няскончанае тэхнічнае, два гады на ўліку,*
*спаленае ёдам горла,*
*разарванае арматурай вуха.*

*Пра што ты мроіў усе гэтыя гады?*
*Чаго хацеў?*

*Усё, чаго ён хацеў, ляжала*
*ў найбліжэйшым гандлёвым цэнтры.*
*Зламаць яго было, нібы зламаць*
*пячаткі на папскіх граматах.*

*«Я ніколі, — пісаў ён, — не меў такой*
*колькасці грошай, каб купіць*
*усё, што мне хочацца. Заўсёды нешта*
*адкладаў на лепшыя часы.*
*Толькі цяпер зразумеў, што лепшых*
*часоў не будзе.*

*Ты таксама тут нарадзіўся.*
*Ты ведаеш, як яно ўсё.*
*Скажы следам за мной:*
*жыццё — жорсткае й несправядлівае,*
*жыццё — кароткае й безнадзейнае,*
*жыццё — бязрадаснае і подлае.*
*Той, хто нічога не меў,*
*нічога й не будзе мець,*
*той, каму няма чаго губляць,*
*нічога й не згубіць».*

*Тут доўга ніхто не чакае лепшых часоў.*
*Маўклівую, ціхую смерць тут ніхто*
*не адрознівае ад усіх астатніх жанчын.*
*Добрае сэрца, хворыя лёгкія —*
*ты жывеш з ёй, таму што любіш,*
*паміраеш таму, што жывеш з ёй.*

*«Дзякуй, што пішаш, — кажа мне ён, —*
*дзякуй, што пішаш».*
*«Няма за што», — адказваю я.*
*І сапраўды — няма.*

**Пераклаў з украінскай Андрэй Хадановіч**

Успаміны

# Тры гады ў Смаргонях



Арсень ЛІС

**Працяг. Пачатак у № 29**

**Пазнаўшы ў асобах і фактах гісторыю рэфармацыі ў Беларусі, я з горыччу думаў пра яе паражэнне. Каб стрывала, устаяла супраць наступу святога воінства ордэна Лаёлы, можа б іначай склаўся беларускі гістарычны лёс.**

Езуіты з'явіліся ў сярэднявечнай Літве-Беларусі ў абозе самога караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Сцяпана Баторы, як назвалі яго старыя ліцвіны. Канцлер ВКЛ Яўстаф Валовіч не хацеў пасведчыць ім дазвол на разгортванне дзейнасці ў краіне. Тады ўладны дзяржаўца загадаў яму: «Стаў зараз жа пячатку на маё распараджэнне або адбяру яе і сам пастаўлю!»

Езуіты прыйшлі добра ўзброіўшыся асветнымі ведамі і метадамі, здабыткамі навукова-асветнай думкі Захаду. Прыйшлі строга арганізаванымі, маналітнымі ідэйна. Рухава прыняліся за пабудову святыняў і, мабыць, першае, што зрабілі, — паслалі добра падрыхтаваных педагогаў у сем'і беларускіх магнатаў. Хіба не паказальна, што ўжо дачка князя Канстанціна Астрожскага, апоры праваслаўя ў ВКЛ, перайшла ў каталіцтва. З пратэстанцтва ў каталіцтва вярнуўся сын самога стратэга і мадэратара рэфармацыі, пратэстанцтва ў Літве князя Мікалая Радзівіла Чорнага. Не кажучы ўжо пра іншыя роды магнатаў і шляхты, што ішлі, дзеялі да таго ў рэчышчы пратэстанцтва, рэфармацыі.

У сваёй асветна-рэлігійнай працы езуіты карысталіся, як на той час скрозь у Еўропе, латынню.

З-за таго, што прыбылыя ў Беларусь езуіты ў сваёй большасці былі этнічнымі палякамі, хутка ўспаможнай, другой моваю навучання ў заснаваных імі школах-калегіумах стала польская. Пальшчызна ў розных яе праявах, складніках пачала выцясняць тутэйшую «рушчызну». Васіль Цяпінскі ўжо ў другой палове XVI стагоддзя з трывогай і абурэннем у сваёй прадмове да перакладзенага на старабеларускую мову Евангелля пісаў аб занядбанні тагачаснай элітай Беларусі свайго «зацнага рускага языка» і нават «взгарду» да яго. Разумеў, што азначае страта духоўных, моўных традыцый для гістарычнага лёсу народнасці.

А ў Смаргоншчыне такі грунтоўна ў свой час была ўкаранілася рэфармацыя. Акрамя збору Зяновіча ў самім горадзе была пабудавана і функцыянавала як пратэстанцкая харомiна, цяперашні касцёл, у Жодзішках. За нейкіх дзевятнаццаць кіламетраў ад Смаргоняў, толькі праз Вяллю. Дарэчы, у 20-я гады мінулага стагоддзя ў Жодзішках (у нас кажуць Жойдзішках) спынялі паланізацыю, адраджаў беларускае знаны ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. За гэта і быў пасаджаны ў Лукішскую турму. У заходнебеларускім віленскім перыядычным друку пісалі тады пра суд над ім як першым публічным палітычным працэсе ў адроджанай, даваеннай Польшчы.

Было, праўда, выключэнне. Пэўны час Полацкую езуіцкую акадэмію ўзначальваў славенец Габрыель Губер. Высокаадукаваны, творчай натуры, гэны чалавек пакінуў у песні сваё захапленне краем, дзе яму давялося жыць, працаваць. Па матывах ягонай песні Максімам Гарэцкім быў складзены верш «Полацак». Стаўся мне ён адзінай весткай аб пачатках старажытнай беларускай дзяржаўнасці, ведамкай, што трапілася калісь, яшчэ ў школьныя гады, з чытанкі «Родны край». Матыў Губера, агучаны Максімам Гарэцкім, гучаў элегічна:

*Даўні час мінуўся. Славу замяло.*
*Вечa занямела. Як і не было...*
*Полацак вялікі — змогся. Супачыў.*
*Волі крывічанскай —*
*быццам і не сніў.*
*Справа пахавана. Курганы маўчаць,*
*Полата з Дзвіною грозна*
*не бурляць.*
*Ціха яны плачуць: гэй, мінуўся час, —*
*У цяжкай няволі Полацак пагас...*

* * *

Калі ж вярнуцца памяццю ў гады майго смаргонскага школьнага навучання, то, мабыць, лагічна згадкі пачаць ад нашых настаўнікаў-прадметнікаў.

Беларускую літаратуру ў нас выкладаў малады, жвавы, імкліва-рухавы, светлавалосы Міхал Іванавіч Касяк. Наогул прыгожы, што называецца, кроў з малаком, твар яго крыху псавала ледзь улоўная касавокасць. Яна, зрэшты, прыкмячалася не адразу.

На жаль, ні разу што-небудзь з вершаў напамяць ён нам не прачытаў ды і не сказаў што-небудзь запамінальнае літаратуразнаўчае.

Затое вельмі старанна ўважліва ставіўся да хатняга задання. Пры вывучэнні творчасці пісьменніка ў дадатак да параграфа ў падручніку па літаратуры настаўнік абавязкова загадваў нам прачытаць нейкі вызначаны ім параграф з курсу гісторыі ВКПб. У той час, дарэчы, аўтарства гэтай кніжкі негалосна прыпісвалася, хоць тое і не было ў ёй пазначана, Сталіну. Так што наш выкладчык, як цяпер падумалася, ідэйна правільна па тагачасным разуменні, ідэйна падкоўваў нас з юнацкіх гадоў. А можа была тая ідэйна-педагагічная метода яго ўласным вынаходніцтвам? Рупіўся дзеля кар'еры?

Настаўніца рускай літаратуры, высокая статная брунетка Галіна Умецкая прыйшла да нас адразу пасля заканчэння Мінскага педінстытута. Згадваю, мы ўважліва слухалі маладога педагога. Іншым разам не трэба было і заглядаць у падручнік, каб на наступным уроку годна адказаць па тэме. У той час падручнікі па гісторыі рускай літаратуры былі напісаны вядомымі, аўтарытэтнымі вучонымі. Мне больш запомніўся падручнік да 9-га класа, напісаны прафесарам Зерчанінавым. Я не ведаў тады, што былі і ў нас у 20-я гады таленавітыя вядомыя літаратуразнаўцы і крытыкі прафесары — Міхал Пятуховіч, Іван Замоцін, Аляксандр Вазнянскі, крытык Уладыслаў Чаржынскі... Але рэпрэсіі 30-х гадоў нікога з іх не абмінулі. Усе адышлі з жыцця трагічна. Так што з'яўленне літаратуразнаўчага падручніка па роднай літаратуры нам давялося пачакаць. Але затое, калі ізо атрымалі, будучы ў дзявятым класе, я зведаў сапраўдную радасць. Асабліва запомніўся, на жаль, сёння не ўзгадаю яго аўтара, расповед пра драму Янкі Купалы «Раскіданае гняздо».



Арсень Ліс з аднакласнікамі, 10-ты клас



Смаргонь, аднаўлены касцёл

Гарадскую бібліятэку, яна мясцілася адразу за клубам, адкрыў для сябе нябавам, а з ёй «ЛіМ», што стала для мяне самай чытаемай газетай. Была цікавая тым, што адкрывала старонкі бягучага беларускага літаратурнага жыцця. Праз інфармацыю пра толькі што выдадзеныя кнігі, тое, над чым хто з пісьменнікаў працуе, здымкі пісьменніцкіх сустрэч, водгукі, вершы... Газета няўзнак далучала да ўсяго, што было напісана адразу па вайне ў нашай літаратуры. Прачытаў раман Алеся Стаховіча «Пад мірным небам», аповесць Івана Шамякіна «Глыбокая плынь», «Вяснянку» Тараса Хадкевіча, «Святло над Ліпскам» Макара Паслядовіча, «Векапомныя дні» Міхася Лынькова яшчэ па палымянскай публікацыі рамана, аповесць Кузьмы Чорнага «Скіп'еўскі лес»... Нешта з названага прачытаў у бібліятэцы, а нешта купляў на кішэнныя грошы, выдаваныя мне бацькам. Маючы на ўвазе мой кнігазбор, маці аднойчы сказала: «Усё пра партызанаў і калхозы. Чаму тут навучышся?» Была спакушана ў маладосці рускай класікай, што мелася ў хатняй бібліятэцы яе старэйшага брата Васіля, выпускніка Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Я ж тады не задумваўся, чаму можна навучыцца ў літаратуры. Проста мне было цікава. А набытая кніга была сапраўднай радасцю, святам душы.

* * *

Аднаго разу мой аднакласнік Жора Янчуковіч спытаўся, ці не складаю я вершы. А трэба гэта было яму для таго, каб пахваліцца сваёй спробай вершавання. Неўзабаве мы ўдваіх высветлілі, што акрамя нас з Жорам пішуць ды не рашаюцца паказаць тое камлюкаватыя сабе ўсмешлівы Антон Субач, сапраўдны мацак з выгляду сярод нас, драбнейшых, Міхась Царык і Лёна Сосна. Спачатку далі адзін аднаму пачытаць штось з напісанага, а пазней сталі збірацца ў школьнай бібліятэцы, у сутарэнным памяшканні, ды абмяркоўваць свае пісанні. Разам сталі пачувацца смялей у сваіх марах, задумках. Праз нейкі час палічылі, што трэба паспрабаваць напісанае намі неяк абнародаваць — выдаць свой рукапісны часопіс. Назвалі яго «Родны край». Антось Субач у сваіх нататках набіраў іранічны тон. Царык Міхась у вершах шчыра выказваў сваю любоў да роднай прыроды. Я пісаў нешта гістарычна актуальнае ў сваім разуменні, міжволі набіраючы рытарычны пафас:

*Мы вечна помніць будзем дзень,*
*Калі ўсходнія браты*
*Прынеслі сонца нам прамень*
*Цераз граніцу і драты...*

Спрабаваў сябе ў апавядальных жанрах на тэму вайны. Дзіўлюся з аддалі чаму, што і як я там апісваў ажно ў пяці ці шасці сваіх так званых аповедах.

Самадзейна арганізаваны літгуртох наш мы, так бы мовіць, афіцыйна не заяўлялі, на сцэну з тварэннямі сваімі не вытыкаліся, выданне сваё не пашыралі ў школьных масах.

Можа таму да нашай суполкі не адразу, а пазней далучыўся Барыс Кастаненка. Быў на пару гадоў старэйшы за мяне. У адрозненне ад нас, тутэйшых, паходзіў з усходняй Віцебшчыны. Бацькі яго, маці настаўніца і бацька дробны службовец, прыехалі ў Смаргоні па вайне, дзе на той час было лягчэй, працэй пражыць. Традыцыйна па серадах смаргонскі рынак на Крэўскай тады ледзь змяшчаў на сваёй плошчы шырокі заезд фурманак, вазоў з розным сельскагаспадарчым дабром ды жыўнасцю.

Прыход Барыса ў наш сціп-шаны гурт актывізаваў нас. Барыс нябдага маляваў, меў добры, выразны почырк, што адразу палепшыла выгляд нашага сціплага часопіcіка. Сваімі вершамі пачаў задаваць байчэйшы творчы тон. Прапанаваў замяніць агульную назву нашага самвыдата «Родны край» на ідэйна больш актуальную «Росквіт». Свой юначы задор і гумар Барыс пачаў выражаць і ў сяброўскіх шаржах ды вершаваных подпісах да іх.

Я на той час ужо паспеў нешта пазнаць з украінскай ды грузінскай літаратуры (па апошняй дастаў хрэстаматыю з партрэтамі пісьменнікаў). Замахнуўся быў аж на паэму, у якой збіраўся «паваndraваць» па гэтых рамантычных для мяне краінах. Тым часам рэалізацыя задумкі давалася, натуральна, туга, і сябра маляваў мяне заклапочаным, у сапраўдных творчых муках. «Наш паважаны А.Ліс над паэмаю раскіс // Нешта з тэмай не выходзіць. // Мо натхненне з часам зойдзецца? // А цяпер я пасаджу ды ў аконца паглядж». Такім чынам падахвочваў сабрата-пачаткоўца па пяру.

Барыс першым з нас пачаў друкавацца ў перыёдыцы. Нізку яго вершаў, калі мы былі ужо ў дзясятым класе, апублікавала абласная газета ў Маладзечне.

**Працяг будзе**

# «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»: Альгерд Абуховіч

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Нядаўна ў перасоўным шапіку гандляра беларускай літаратурай і дыскамі (такія раней зваліся кнігаўношамі) мне трапілася на вочы кніжка з новай выдавецкай серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры», якая была прысвечана лёсу і творчасці беларускага пісьменніка Альгерда Абуховіча. Ну вось, падумаў, і ў нас, па прыкладу ўкраінцаў, будзе ўшанавана свая Беларуская Сотня...**




Сапраўды, намаганнямі і з ініцыятывы Інстытута беларускай гісторыі культуры і выдавецтва «Харвест» была запачаткавана серыя брашур «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Брашуры выпускаюцца ў міні-фармаце, каб з іх тэкстам можна было пазнаёміцца ў транспарце, на адпачынку, падчас шпацыру. Новая выдавецкая серыя адрасуецца маладым чытачам, якія цікавяцца гісторыяй беларускай культуры, яе яскравымі прадстаўнікамі.

Першыя выданні серыі былі прысвечаны такім выдатным асобам айчыннай культуры, як мастак Міхаіл Андрыёлі (аўтар В. Чаропка), тэатральны дзеяч Фларыян Ждановіч (А. Мінскі), гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі (А. Тарас). З гэтых брашур чытач можа даведаецца не толькі пра асноўныя біяграфічныя звесткі, але і творчы ўнёсак таго ці іншага дзеяча ў скарбонку Беларускага Адраджэння.

Таксама, шмат увагі аўтары надаюць тэме звароту тых ці іншых таленавітых землякоў да беларушчыны, якая ў часы іх жыцця зазнала шмат выпрабаванняў, царскіх забаронаў і здзекаў...

Выдаўцы плануюць, што ў кожны з дзесяці гадоў (на такі тэрмін разлічана серыя) павінна ўбачыць свет да 10 кніжачак пра выдатных беларусаў. Гэтыя міні-выданні плануецца распаўсюджваць у спецыялізаваных навуковых крамах, кшталту «Акадэмкнігі», а таксама праз незалежныя кніжныя гандлёвыя кропкі.

Не так даўно пабачылі свет выданні серыі, прысвечаныя мастаку і кампазітару Напалеону Ордзе (аўтар В. Чаропка), драматургу і паэту Карусю Каганцу (А. Пашкевіч), кампазітару і дырыжору Мечыславу Карловічу (І. Шумская), паэтцы і пісьменніцы Элаізе Пашкевіч (А. Марціновіч), якія былі з прыхільнасцю сустрэтыя чытачамі.

Апошняе папаўненне кніжнай міні-серыі — нарыс Яўгена Гучка «Альгерд Абуховіч. Зачараваны беларускім словам», прысвечаны гэтаму вядомаму ўраджэнцу Слуцка, паўстанцу 1863 года, аднаму з пачынальнікіў беларускай літаратуры. Безумоўна, для асвятлення лёсу і творчай спадчыны гэтага слаўнага сына Беларусі нельга было знайсці больш дасведчанага спецыяліста па гісторыі гэтага краю, чым Яўген Гучок. Менавіта тэма роднага Слуцка і яго знакамітых ураджэнцаў стала магістральнай у даследчай працы спадара Гучка. І гэтая кніжачка сталася працягам жыццёвага крэда незалежнага пісьменніка і паэта.

Аўтар нарыса падрабязна распавядае пра старонкі біяграфіі і сямейную гісторыю Абуховічаў, калі па бабцы іх сям'я набыла графскі тытул і прыдомак да прозвішча Бандынэлі («Абуховічы»). Яўген Гучок шмат увагі надае аналізу творчай спадчыны земляка, робіць высновы адносна беларускага патрыятызму Альгерда Абуховіча (Беларушчына А. Абуховіча). Па традыцыі Я. Гучок робіць экскурс у гістарычнае мінулае «Слуцкіх Афінаў», як аднаго з цэнтраў кальвінізму ў Беларусі, аргументавана асэнсоўвае традыцыі еўрапейскай адукацыі, якія доўгія гады вызначалі інтэлектуальны ўзровень перадавых случакоў («Слуцк»).

Трэба адзначыць, што «фішка» ўсіх кніг Я. Гучка — нізка цікавых гістарычных фактаў, росшукаў і вынікаў даследаванняў, якія аўтар пастаянна вядзе ў архівах, бібліятэках, у тым ліку і ў Слуцку. Яны, як перліны, робяць канву кніжкі займальный, цікавай для чытання.

Так, напрыклад, Яўген Гучок распавядае, як на слуцкіх могілках яму трапіўся надпіс на магіле «Sinjor belaruski» — менавіта так у Слуцку звалі выхавацеляў гімназіі, якія ў тыя змрочныя для краю часы вызнавалі сябе беларусамі і перадавалі сваю нацыянальную пазіцыю моладзі. І такіх цікавых адкрыццяў і фактаў у кнізе шмат.

Асобны раздзел кніжкі — «Кароткі разгляд твораў» А. Абуховіча. І аўтар робіць свае высновы адносна творчай асобы пісьменніка: «Па шчырасці натуры ён нагадвае Жана Жака Русо, па ёмістасці сваіх раздзелаў, а ў іх кожны сказ ягонай прозы ні ў якім разе ні ніжэй за ўзровень Альфрэда дэ Мюсэ... Тут жа аповед пра падарожжа па Украіне, напісаным нібыта Лорэнсам Стэрнам. А развагі пра жыццё ўвогуле ўзыходзяць да пранікнёных і пранізлівых старонак знакамітага твора рымскага імператара і мысліцеля Марка Аўрэлія» «Сам-на-сам».

Сапраўды, пасля такога параўнальнага аналізу і знаёмства з невядомымі фактамі біяграфіі пісьменніка хочацца зноў дастаць з паліцы том «Твораў» Альгерда Абуховіча, які быў выдадзены «Мастацкай літаратурай» у 1991 годзе, каб наноў адчуць смак эпохі і зразумець, як і ў якіх гістарычных абставінах нараджалася і выкрышталізоўвалася беларуская літаратура.




## Запрашаем у вандроўку ў госці да Тодара

**23–24 жніўня Магілёўскае ТБМ запрашае ў захапляльную і пазнавальную вандроўку (субота-нядзеля) «У госці да Тодара».**

У праграме — рэдкія найцікавейшыя мясціны Гарадзеншчыны, палатачны гарадок на сядзібе Зміцера Вайцюшкевіча «Вайцюшкі», беларускія спевы і добрая кампанія на 2 дні!

***Прыкладны маршрут:***

***1-ы дзень:*** Магілёў — Мінск — Лаздуны — Юрацішкі — Трабы — Суботнікі — Ліпнішкі — Іў'е — Вайцюшкі.

***2-і дзень:*** Ганчары — Тарнова — Белагруда — Ваверка — Мураванка — Вялікае Мажэйкава — Мінск — Магілёў

Паклапаціцеся пра турыстычны рыштунак — палатка, спальнік, дыванок і г. д.

На вандроўку пажадана запісацца загадзя па тэлефоне ***+375 29 388-35-61 (Алег)***

# Мутуалістычныя стасункі

**Традыцыйна, ужо трэці год запар, у апошні месяц лета Галерэя сучаснага мастацтва «Ў», ГА «Экадом» і ўстанова «Агра-Эка-Культура» ладзяць Агра-Культурны Фэст і выставу, прысвечаную праблемам экалогіі.**




Сёлета пад навуковай назвай праекта хаваецца зварот мастакоў да самых непрыкметных з'яваў прыроды, паглыбленне ў гарманічны стан ды пошук самога сябе як часткі агульнай эка-сістэмы. Мутуалізм (англ. Mutual — узаемны) — шырока распаўсюджаная форма ўзаемакарыснага суіснавання. Арганізм, які ўступае ў мутуалістычныя адносіны, атрымлівае пэўныя перавагі. Менавіта ў кантэксце партнёрскіх зносінаў мастакі разглядаюць праблему дэзінфармаванасці чалавека ў пытаннях асяроддзя, экалогіі і наступстваў прывычнага сучаснаму чалавеку ладу жыцця.

Удзельнікамі выставы сталі восем беларускіх мастакоў: Вольга Сазыкіна, Ігар Корзун, Аляксандра Корзун, Анро, Дар'я Зайчанка, Валянцін Борзды, Вікторыя Шчарбакова, Bazinato, а таксама Мамука Джапарыдзэ з Грузіі.

Падчас адкрыцця выставы 7 жніўня наведвальнікам быў прапанаваны перфоманс «Драм-н-Пікс, Піксельтранс і Экспрэсіяніcцкі мінімалізм на субпіксільным узроўні» Максіма Тымінько і гурта «Кароль пчол»: гітара — Сяргей Пукст, бас-гітара — Дзмітры Лось, барабаны — Максім Тымінько.

Праект завершыцца 31 жніўня лекцыямі аб эка-арце ды экалогіі, экскурсіяй па выставе і Агра-культурным фэстам–2014, якія згуртуе мастакоў, фермераў, эколагаў і гасцей фестывалю ў цікавай праграме.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1083

Падпісана да друку 15.08.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.